● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

21 лютага 1998 г. субота, № 40 (23391)



# ЗВЯЗДА



## ВІЗІТ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ ВА УЛАДЗІВАСТОК І НОВАСІБІРСК БУДЗЕ САДЗЕЙНІЧАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ НА РЭГІЯНАЛЬНЫМ І ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНЯХ

**Візіт беларускага прэзідэнта ў Новасібірск будзе толькі садзейнічаць паглыбленню інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю.**

Так па просьбе карэспандэнта БЕЛТА пракаменціраваў запланаваную трохдзённую паездку Аляксандра Лукашэнкі па рэгіёнах Далёкага Усходу і Заходняй Сібіры, якая пачнецца 22 лютага, намеснік кіраўніка адміністрацыі Новасібірскай вобласці Уладзімір Нехарошкаў. Паводле яго слоў, візіт беларускага прэзідэнта ў расійскія рэгіёны — гэта добры прыклад падтрымкі тых абласных прадпрыемстваў, якія зацікаўлены ў супрацоўніцтве. Такой жа думкі прытрымліваецца і віцэ-губернатар Прыморскага края Альфрэд Гартман. На яго погляд, візіт Аляксандра Лукашэнкі ва Уладзівасток дапаможа знайсці ў супрацоўніцтве новыя пункты судакранання і будзе садзейнічаць інтэграцыі не толькі на рэгіянальным, але і на дзяржаўным узроўні.

Поўным ходам ва Уладзівастоку ідзе падрыхтоўка да намечанага на 22 лютага візіту прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў гэты далёкаўсходні горад.

Прадугледжваецца, што ў Новасібірску Аляксандр Лукашэнка сустрэнецца з вучонымі Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук і прадстаўнікамі беларускай дыяспары.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## ЯШЧЭ АДЗІН «ЧАЛАВЕК ГОДА»

Дэкан факультэта міжнародных адносінаў Белдзяржуніверсітэта прафесар Аляксандр Шарапа ўшанаваны Міжнародным Кембрыджскім цэнтрам (Англія) намінацыяй «Чалавек года». Гэтая прэстыжная ўзнагарода адзначае дасягненні і арганізатарскія здольнасці найболей адметных у міжнароднай супольнасці асобаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# 23 ЛЮТАГА — ДЗЕНЬ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ!

### *ПРЫВІТАННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. Р. ЛУКАШЭНКІ Ў СУВЯЗІ З 80-ГОДДЗЕМ УЗБРОЕНЫХ СІЛ*

Паважаныя суайчыннікі!
Дарагія ветэраны!
Воіны Узброеных Сіл!

23 лютага наша краіна, беларускі народ урачыста адзначаюць Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Гэта свята па праву з'яўляецца ўсенародным. Няма ў Беларусі сям'і, у якой бы беражліва і з любоўю не захоўвалі фатаграфіі сваіх родных і блізкіх у ваеннай форме. У кожным з нас жыве хвалюючая памяць аб тых, хто змагаўся за Айчыну, хто загінуў на полі бою, да канца выканаўшы свой абавязак воіна і грамадзяніна.

У гэтым годзе ў нашага свята асаблівае гучанне і асаблівая значнасць — мы адзначаем 80-годдзе нашых Узброеных Сіл.

80 гадоў таму былі сфарміраваны часці і злучэнні, што паклалі пачатак Узброеным Сілам, якія ўжо ў першыя гады свайго існавання змаглі абараніць маладую савецкую дзяржаву, а ў 40-я — выратаваць сваю краіну і ўсё чалавецтва ад фашысцкага заняволення. У 1992 годзе адно з самых магутных стратэгічных аб'яднанняў Узброеных Сіл СССР — Чырванасцяжная Беларуская ваенная акруга была пераўтворана ва Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь.

Праслаўленыя баявыя сцягі з гістарычнымі нумарамі злучэнняў і часцей акругі іх ганаровымі назвамі і ордэнамі натхняюць сёння нашых воінаў. Ад старэйшых пакаленняў да іх перайшлі і баявыя традыцыі мінулага. Наш афіцэрскі корпус атрымаў у спадчыну славу выдатных военачальнікаў маршалаў Савецкага Саюза Г. К. Жукава і К. К. Ракасоўскага, чый палкаводчы талент фарміраваўся на беларускай зямлі, а таксама ўраджэнцаў Беларусі маршалаў Савецкага Саюза В. Д. Сакалоўскага і І. І. Якубоўскага, генерала арміі А. І. Антонава, маршала авіяцыі С. І. Красоўскага і іншых генералаў і адміралаў, пад камандаваннем якіх была атрымана Вялікая Перамога.

Цяперашні юбілей сімвалізуе адзінства мінулага і сучаснага, пераемнасць пакаленняў, яднанне народа і яго арміі.

У сучасных умовах Рэспубліка Беларусь, праводзячы палітыку добрасуседства, партнёрства і супрацоўніцтва, не разглядае ні адну дзяржаву ў якасці свайго ваеннага праціўніка. Аднак забеспячэнне ваеннай бяспекі і абараназдольнасці краіны па-ранейшаму застаецца важнейшай задачай дзяржавы і ўсяго народа. Нашы Узброеныя Сілы аснашчаны магутнай зброяй і сучаснай баявой тэхнікай, яны боегатовыя і баяздольныя. І ў далейшым мы будзем імкнуцца забяспечваць армію ўсім неабходным для выканання задач, што стаяць перад ёй.

Асновай любой арміі з'яўляецца афіцэрскі корпус. Моцнай армію робяць моцныя людзі — прафесіяналы. Нашым афіцэрам выпаў няпросты час для службы, але, нягледзячы на цяжкасці, яны добрасумленна выконваюць свой абавязак перад Айчынай. Дзяржава будзе рабіць усё магчымае для таго, каб стварыць афіцэрам і іх сем'ям, усім ваеннаслужачым дастойныя ўмовы службы і жыцця.

Залогам паспяховага вырашэння задач ваеннага будаўніцтва і абароны краіны з'яўляецца і наша ваеннае супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй. Мы лічым бяспеку Саюза Беларусі і Расіі неад'емнай часткай агульнаеўрапейскай сістэмы бяспекі. Наш Саюз нікому не пагражае, мы адкрыты для дыялога дзеля ўмацавання міру на кантыненце.

У гэты святочны дзень мы шлём свае сардэчныя віншаванні нашым расійскім братам па зброі. У адзінстве наша сіла!

Ад усёй душы віншую з цудоўным святам усіх, хто сёння знаходзіцца ў радах Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, тых, хто дастойна выканаў свой воінскі абавязак, і тых, каго армейская служба чакае ў будучым.

Нізкі паклон і сардэчная падзяка за мужнасць і стойкасць усім ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, воінам-інтэрнацыяналістам, ветэранам Узброеных Сіл. Дзякуй за актыўную жыццёвую пазіцыю і за ўклад у патрыятычнае выхаванне нашай моладзі.

З цёплымі словамі віншавання і ўдзячнасці звяртаюся да родных і блізкіх ваеннаслужачых — да маці і бацькоў, жонак і дзяцей, сяброў і сябровак. Няхай ваша любоў і падтрымка саграваюць сэрцы нашых воінаў.

Вітаю і віншую з 80-гадовым юбілеем нашых Узброеных Сіл беларускі народ. Міру вам усім, дарагія мае суайчыннікі, шчасця і дабрабыту!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**



### *І Ў СУВОРАЎСКІМ ЖЫЦЦІ БЫВАЮЦЬ «САЛОДКІЯ» МОМАНТЫ*

**Сёння ў мінскага сувораўца Жэні Троцкага двайное свята: па-першае, камандзіры павіншавалі ўсіх з Днём абаронцаў Айчыны, па-другое, надышоў дзень яго нараджэння. Як тут не падзяліць радасць з сябрамі, асабліва калі побач умелая кулінарка з суворўскай сталовай Інеса Уладзіміраўна Мацвеева.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## СВЯТОЧНЫ ФЕЕРВЕРК У ГОНАР АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ

**Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл, якім у гэтым годзе спаўняецца 80 гадоў, адзначыць наша краіна 23 лютага. У сувязі з гэтым святам міністр абароны рэспублікі генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў падпісаў загад.**

— Гэта слаўнае свята, якое стала сапраўды ўсенародным, у свядомасці многіх пакаленняў непарыўна звязана з вялікімі ідэямі патрыятызму, самаадданага служэння Айчыне, вернасці воінскаму абавязку і прысязе. Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь, якія сталі правапераемнікамі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, арымалі ў спадчыну і захоўваюць вельмі багатую гераічную гісторыю, традыцыі баявога майстэрства, мужнасці і доблесці.

Аляксандр Чумакоў павіншаваў ваеннаслужачых, ветэранаў вайны і працы, народ Беларусі са слаўным юбілеем, пажадаў ім здароўя, шчасця і дабрабыту.

У азнаменаванне Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь па загаду міністра абароны 23 лютага 1998 года ў 20 гадзін адбудзецца святочны феерверк у сталіцы рэспублікі горадзе-герої Мінску і крэпасці-герої Брэсце.

**БЕЛТА.**

## «ГОД ЗАКОНЧАНЫ З УСТОЙЛІВЫМІ ПАКАЗЧЫКАМІ ЭКАНАМІЧНАЙ БЯСПЕКІ ДЗЯРЖАВЫ»

**На пытанні карэспандэнта «Звязды» Івана Бараноўскага адказвае міністр фінансаў Мікалай Корбут**

**— Мікалай Пятровіч, Міністэрства фінансаў, як вядома, найперш забяспечвае выкананне бюджэту. Якія вынікі па выкананню бюджэту за мінулы год? Чым у гэтым плане 1997 год адметны, адрозніваецца ад 1996-га і іншых гадоў?**

— Рост вытворчасці і паслуг, упарадкаванне сістэмы прадастаўлення падатковых і мытных ільгот, павышэнне мытных пошлін на ўвозімыя тавары, актывізацыя мясцовых органаў кіравання ў прыцягненні дадатковых даходаў у бюджэт, узмацненне кантролю і адказнасці за паўнату пералічэння плацяжоў — усё гэта і іншае забяспечыла ўстойлівае выкананне бюджэту ў 1997 годзе. Паводле папярэдняй ацэнкі, у рэспубліканскі бюджэт паступіла 66,9 трлн. рублёў, што складае 101,6 працэнта ўдакладненага гадавога плана, у кансалідаваны бюджэт — каля 111 трлн. рублёў (103,2 працэнта плана).

**Чым адрозніваецца выкананне бюджэту ў 1997 годзе ад папярэдніх перыядаў?**

Упершыню за апошнія тры гады забяспечана выкананне даходнай часткі рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў;

узмоцнены кантроль за напаўненнем даходнай часткі бюджэту і мэтанакіраваным выкарыстаннем дзяржаўных сродкаў. Нядоімка па плацяжах у бюджэт знізілася больш чым на 300 млрд. рублёў, хоць і склала на пачатак сёлетняга года 1,4 трлн. рублёў;

палепшылася ўзаемадзеянне рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, што дазволіла ім практычна не дапусціць даўгоў па заработнай плаце, скараціць да мінімуму запазычанасць бюджэтнай сферы за выкарыстаныя энергарэсурсы;

выраслі маштабы неінфляцыйных крыніц фінансавання дэфіцыту бюджэту.

Характэрная асаблівасць бюджэтаў апошніх гадоў — гэта іх прагрэсіруючая сацыяльная накіраванасць. Калі ў 1995 годзе на фінансаванне затрат сацыяльна-культурных устаноў і мерапрыемстваў накіравана 39,9 працэнта ўсіх расходаў бюджэту, у 1996-м — 45,9, то ў 1997 годзе — 48,6, што склала 53,8 трлн. рублёў і дазволіла практычна захаваць разгалінаваную сетку ўстаноў сацыяльна-культурнага комплексу, аб'ёмы аказваемых паслуг у ахове здароўя і сацыяльным забеспячэнні.

Год завершаны з даволі ўстойлівымі паказчыкамі эканамічнай бяспекі дзяржавы. Так, знешні доўг дзяржавы на канец 1997 года склаў 958 млн. долараў ЗША, ці застаўся на ўзроўні 1996 года. Праўда, разам з гэтым павялічыўся ўнутраны доўг — за год амаль на 7,2 трлн. рублёў (у цэлым ён склаў на пачатак года 14 трлн. рублёў, або 4 працэнты ад валавога ўнутранага прадукту). Тым не менш, мы выйшлі на дэфіцыт кансалідаванага бюджэту ўсяго 2,1 працэнта ад ВУП пры дапушчальных 3 працэнтах, якія былі вызначаны ў Законе аб бюджэце.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 20 ЛЮТАГА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 43300 | 43900 | 23700 | 24200 | 7100 | 7300 | 263-6080 |
| Белаграпрамбанк | 43000 | | 23700 | | 7100 | | 228-5716 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 32420.00 | | 17841.62 | | 5360.00 | | Курс на 20.02.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0620 | | 3.3376 | | 10000 BLR - 1.3805 | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 43850 | 43950 | 24131 | 24192 | 7242 | 7261 | |

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

# «ГОД ЗАКОНЧАНЫ З УСТОЙЛІВЫМІ ПАКАЗЧЫКАМІ...»

**— Апошнім часам даволі часта падкрэсліваецца наконт дысцыплінаванасці падаткаплацельшчыкаў. Ці была яна, або дакладней, ці былі яны на вышыні ў мінулым годзе?**

— Як ужо адзначалася, па выніках 1997 года даходная частка як рэспубліканскага, так і мясцовых бюджэтаў перавыканана. Аб чым гэта сведчыць? Аб тым, што падаткі плацяцца. Тыповага беларускага падаткаплацельшчыка ўвогуле можна ахарактарызаваць як цалкам добрасумленнага.

Аднак пакуль яшчэ не для ўсіх прынцып «заплаці падаткі — і жыві спакойна» стаў кіраўніцтвам да дзеяння. Асобнымі падаткаплацельшчыкамі наўмысна ўтойваюцца даходы і іншыя аб'екты падаткаабкладання, не паказваецца ў бухгалтарскім уліку сапраўднасць аперацый, а разлікі з партнёрамі праводзяцца наяўнымі грашыма або праз падстаўных асоб. Таму работа па павышэнню падатко2вай дысцыпліны з'яўляецца для нас вельмі актуальнай. У першую чаргу размова ідзе аб больш поўным прымяненні падатковымі інспекцыямі ўсіх прадастаўленых ім праවоў па забеспячэнню поўнага і своечасовага ўнясення плацяжоў у бюджэт. Актывізацыя работы ў гэтым напрамку Дзяржаўнага падатковага камітэта і яго органаў на месцах дазволіла па выніках работы за 1997 год далічыць у даход бюджэту больш як 7,4 трлн. рублёў, уключаючы фінансавыя санкцыі і адміністрацыйныя спагнанні.

Разам з тым імкненне максімальна пакараць прадпрыемства за допушчаныя падатковыя парушэнні — без высвятлення іх сутнасці і прычын, без аналізу вынікаў прымянення фінансавых санкцый, якія вельмі часта значна перавышаюць выяўленыя сумы, не павінна быць самамэтай у рабоце падатковых інспекцый. Практыка сведчыць, што даволі вялікая колькасць падатковых правапарушэнняў звязана з няведаннем плацельшчыкамі ўсіх механізмаў налічэння і ўплаты падаткаў, адсутнасцю ў некаторых выпадках у іх неабходных інструктыўных матэрыялаў, слабай прафесіянальнай падрыхтоўкай бухгалтараў. Каб пазбегнуць гэтага, трэба спрашчаць падатковае заканадаўства, скарачаць колькасць уплачваемых прадпрыемствамі плацяжоў.

Інспекцыям Дзяржаўнага падатковага камітэта таксама неабходна шырэй праводзіць адпаведную растлумачальную работу, хутчэй даводзіць да ведама падаткаплацельшчыкаў выдаваемыя інструкцыі. Сваё месца ў гэтай рабоце павінны знайсці і фінансавыя органы.

**— Здаецца, у нас не так ужо рэдка адтэрміноўваюцца плацяжы ў бюджэт або даюцца пэўныя падатковыя льготы асобным прадпрыемствам і нават цэлым галінам, як, напрыклад, сельскай гаспадарцы. Але ж гэта ставіць суб'ектаў гаспадарання ў няроўныя ўмовы, падрывае ўсякую аснову для рыначнай канкурэнцыі паміж імі. Ці не так?**

— Што датычыць ільготаў, дык варта нагадаць: яшчэ ў лістападзе мінулага года ў Магілёве прэзідэнт сказаў, што час неэфектыўных ільготаў мінуў. Трэба жыць па сваіх сродках.

У сувязі з гэтым варта зазначыць: дзеючая сістэма падаткаабкладання за 5 гадоў свайго функцыянавання аказалася перанасычанай «індывідуальнымі» падатковымі льготамі. Да таго ж значная частка падатковых ільготаў ніякага эканамічнага эфекту не дае, а толькі ўскладняе і заблытвае падатковае заканадаўства. Такія льготы падрываюць не толькі роўнасць умоў гаспадарання, але і самі асновы падаткаабкладання. Тое ж самае можна сказаць і наконт адтэрміновак па плацяжах у бюджэт, вызвалення ад фінансавых санкцый за іх несвоечасовае ўнясенне. Так, пры зніжэнні запазычанасці ў мінулым годзе па плацяжах у бюджэт амаль на 20 працэнтаў, тым не менш, сума даўгоў прадпрыемстваў (з улікам адтэрмінаваных плацяжоў) узрасла на 2,5 трлн. рублёў і дасягнула 5,7 трлн.

Яшчэ адна праблема — страты бюджэту з-за несвоечасовага вяртання бюджэтных пазык, у сувязі з чым летась толькі рэспубліканскі бюджэт недалічыўся каля 700 млрд. рублёў.

Што прадугледжвае далейшы падыход у адносінах да льготаў, колькасць якіх ужо ў мінулым годзе рэзка скарацілася і ад якіх, аднак, зусім адмовіцца нельга — у шэрагу выпадкаў яны апраўдваюць сябе?..

У першую чаргу справа будзе датычыць не паўсюднага, «пагалоўнага» льгатавання, а выбіральнага, мэтавага; пры гэтым прадпрыемствы будуць несці пэўныя абавязацельствы па кампенсацыі прадастаўленых ільготаў, а адпаведныя органы — вызначаць, наколькі эфектыўным будзе прадастаўленне дапамогі.

Прычым ад ільготаў па падатках будзем адыходзіць увогуле — такія льготы толькі расхалоджваюць падаткаплацельшчыкаў. На Захадзе існуе практыка прадастаўлення падатковых крэдытаў, якую раней спрабавалі ўкараніць і ў нас. Такі падыход больш эфектыўны.

**— Як змянілася падатковая нагрузка на суб'ектаў гаспадарання ў сёлетнім годзе, якія асаблівасці падаткаабкладання закладзены на гэты год?**

**І яшчэ: у Законе аб бюджэце на сёлетні год у даходах запісаны такі радок: «Паступленні па штрафах і санкцыях», і ўказана канкрэтная сума. Але ці можна загадзя планаваць яе?**

— Калі гаварыць аб падатковай нагрузцы ў мінулым годзе, — то яна, па сутнасці, засталася на ранейшым узроўні. Варта мець на ўвазе, што і падатковае заканадаўства на мінулы год не мянялася, і адпаведнай магчымасці ў дзяржавы не было, каб знізіць падатковую нагрузку. Яе змяншэнне выклікала б безумоўны рост дэфіцыту бюджэту, а крыніц для пакрыцця гэтага дэфіцыту — няма. Карацей, усё роўна варымся ў адным катле...

Тым не менш, на гэты год агульны ўзровень падатковай нагрузкі на суб'ектаў на 1 працэнт павінен быць ніжэйшым. Адкуль узяліся тыя ж магчымасці і крыніцы? А яны, па сутнасці, закладзены ў значным росце ў мінулым годзе — на 10 працэнтаў — валавога ўнутранага прадукту, у значна лепшай рабоце народнай гаспадаркі ў цэлым, у павышэнні збіральнасці падаткаў.

Калі ж гаварыць больш канкрэтна, на сёлетні год зніжана з 8 да 4 працэнтаў стаўка надзвычайнага падатку, адменена абмежаванне памеру льгатуемага прыбытку, які накіроўваецца на фінансаванне капітальных укладанняў вытворчага прызначэння, значна скарочаны пералік падакцызных тавараў, а таксама зніжаны на шэраг падакцызных тавараў і самі стаўкі. На 1998 год прадоўжаны льготны парадак падаткаабкладання прыросту рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг), якая ідзе за межы рэспублікі, і прадугледжаны новыя льготы для навукова-інавацыйных арганізацый.

Што датычыць планавання паступленняў па штрафах і санкцыях, дык гэта не азначае, што такія паступленні пачалі планавацца ўпершыню. Аналіз выканання даходнай часткі бюджэту за папярэднія гады сведчыць, што паступленні па штрафах складаюць значныя сумы (больш за трыльён рублёў) і маюць пастаянны характар, асабліва за парушэнні падатковага і мытнага заканадаўстваў. Гэта і служыць падставай для планавання паступленняў па штрафах у якасці даходных крыніц. А ў сувязі з увядзеннем з 1998 года новай бюджэтнай класіфікацыі даходаў і расходаў бюджэту асобным радком выдзелены і паступленні па штрафах і санкцыях.

**— Нягледзячы на рост валавых паказчыкаў у галінах эканомікі, не зніжаецца ўзаемная запазычанасць суб'ектаў. Прычым пераважная частка запазычанасці прыпадае на ўнутраны рынак. Карацей, фінансавае становішча суб'ектаў яўна не паспявае за аб'ёмнымі паказчыкамі. Відаць, усё гэта не можа не турбаваць і Міністэрства фінансаў?**

— Вядома, хацелася б, каб вынікі суб'ектаў з пункту гледжання фінансаў былі лепшымі. Нельга мірыцца і з той жа запазычанасцю, а таксама бартэрызацыяй разлікаў. У аператыўным плане выйсце з гэтага становішча наступнае: кожнае адпаведнае прадпрыемства, кожны суб'ект, і асабліва асноўныя плацельшчыкі і даўжнікі, — павінны быць узяты пад строгі кантроль, што, увогуле, і робіцца. У сёлетнім годзе перад намі стаіць задача знізіць у разліках удзельную вагу тавараабменных аперацый не менш чым на 10 працэнтаў. Гэта патрабаванне кіраўніка дзяржавы, і мы павінны выканаць яго.

І, вядома ж, патрэбен аналіз фінансава-гаспадарчай дзейнасці суб'ектаў. У свой час такому аналізу ўдзялялася шмат увагі, а з пераходам на рыначныя адносіны гэта практыка страчана. Скажам, пэўнаму прадпрыемству даюцца пэўныя льготы — і на гэтым усё заканчваецца. А поўнай, рэальнай карціны адносна выкарыстання льготаў, адносна таго, што мы ад гэтага маем, — няма. Фінансава-кантралюючыя органы проста абавязаны глядзець, наколькі рацыянальныя тыя ці іншыя затраты, наколькі абгрунтаванае прыцягненне розных пасрэднікаў да выканання функцый па рэалізацыі прадукцыі, наколькі абгрунтаваныя кантракты, цэны. Трэба адсочваць і тое, як працуе падатковая сістэма, ці не падрывае яна патэнцыяльныя магчымасці вытворцы. Падобны аналіз (вядома, па найбольш значных аб'ектах) — мы наладзім. І найперш — у аграпрамысловым комплексе.



**— Ці не прывядзе падобны аналіз да нарміравання затрат, а г. зн. да дробязнай апекі суб'ектаў гаспадарання?**

— Не. Гэта будзе менавіта аналіз фінансава-гаспадарчай дзейнасці. Нам трэба добра ведаць, якія месцы ў гэтай дзейнасці слабыя. Па вялікаму рахунку, экстэнсіўныя магчымасці эканамічнага росту ў нас заканчваюцца, і ўвесь ухіл трэба рабіць менавіта на якасныя паказчыкі, зніжэнне затрат.

**— У сувязі з тымі ж неплацяжамі пры разліках прадпрыемстваў выкарыстоўваюцца такія формы, як вэксальныя залікі, а таксама ўзаемазалікі, пры гэтым вэксальныя залікі асабліва распаўсюджанне атрымалі ў Мінску. Але на нядаўнім пасяджэнні калегіі Мінфіна вы зазначылі, што да гэтых формаў разлікаў трэба падыходзіць асцярожна. Чаму?**

— Гэтыя формы хоць і распрапагандаваныя, але разам з тым вельмі жорстка раскрытыкаваны службай кантролю. Увогуле, сама нарматыўная база па гэтых блоках распрацавана дрэнна. Тую ж сістэму вэксальнага абарачэння па многіх момантах трэба ўдакладняць. Так, у ёй ні ў якім разе не павінен удзельнічаць бюджэт, тым больш ён не павінен несці пэўныя фінансавыя абавязацельствы або фінансавыя гарантыі. А самае галоўнае — падобныя формы ўзаемаразлікаў і залікаў не прыносяць жывых грошай. Дарэчы, абедзве гэтыя формы набылі негатыўны вопыт у Расіі, і там прынялі рашэнне, што ў разліках (у прыватнасці з бюджэтам) будуць удзельнічаць толькі жывыя грошы.

Уся бяда ў тым, што ў нас пакуль няма нармальнага рынку каштоўных папер — па сутнасці існуе толькі адзін першасны рынак па дзяржаўных казначэйскіх абавязацельствах. Наладжванне паўнацэннага карпаратыўнага рынку каштоўных папер, пры якім зусім не патрэбны былі б і тыя ж залікі, звязана з першапачатковым стварэннем адпаведнай інфраструктуры. Гэта таксама адна з нашых важнейшых задач на бліжэйшы час.

**— Узгадваючы пра неплацяжы прадпрыемстваў, бартэр, нельга тут жа не ўзгадаць і пра тое, што яны цягнуць на сабе немалы груз сацыяльных аб'ектаў, плацяжоў за насельніцтва (напрыклад, па тарыфах за цяпло). Ці чакаюцца ў гэтым плане пэўныя меры, тым больш, што трэба, відаць, зыходзіць з бясспрэчнага прынцыпу «Кожны павінен плаціць за сябе сам?» На прадпрыемствы таксама ціснe нерэальны валютны курс, у прыватнасці абавязковы продаж валюты па ім, што ўяўляе сабой дадатковы, нікім не ўлічваемы падатак...**

— У мэтах паляпшэння фінансавага стану прадпрыемстваў у сёлетнім годзе намячаецца паэтапнае скарачэнне перакрыжаванага субсідзіравання льгатуемых груп спажыўцоў, і на гэтыя мэты ў бюджэце прадугледжаны пэўныя сродкі. Будзе праводзіцца работа і па перагляду тарыфаў, але ў межах прагнозных паказчыкаў па інфляцыі.

Што датычыць валютнага курса, то ў гэтым плане апошнім часам таксама робяцца больш канкрэтныя захады.

**— Часам з суб'ектаў нямала бяруць мясцовыя бюджэты — на ўтрыманне жыллёвага фонду, дзіцячых садзікаў і г. д. Ці закладзены на сёлетні год абмежаванні на падобныя зборы?**

— У сёлетнім годзе ў адпаведнасці з Законам «Аб бюджэце» ўстаноўлена, што суб'екты гаспадарання адлічваюць 0,25 працэнта выручкі ці даходу (у залежнасці ад роду дзейнасці) у фонд фінансавання ведамаснага жылля. Як і ў мінулым годзе, мясцовым Саветам прадастаўлена права павялічваць гэтую стаўку не больш чым у 2 разы.

Абмежаваны таксама памеры мясцовых падаткаў і збораў, якія ўводзяць на сваёй тэрыторыі мясцовыя Саветы. Так, стаўкі па падатках з продажу ўстанаўліваюцца ў межах 5 працэнтаў выручкі ад рэалізацыі, а па мэтавых зборах — 5 працэнтаў ад сумы прыбытку, якая застаецца ў распараджэнні суб'ектаў гаспадарання.

**— На сёлетні год намечаны спрошчаны парадак падаткаабкладання для суб'ектаў прадпрымальніцтва. Што ён прадугледжвае?**

— Прымяненне спрошчанай сістэмы падаткаабкладання прадугледжвае замену шэрагу ўстаноўленых падаткаў і збораў уплатай адзінага падатку, які налічваецца з адзінай базы па выніках гаспадарчай дзейнасці за справаздачны квартал. Прымяненне гэтай сістэмы забяспечвае для малых прадпрыемстваў зніжэнне ўзроўню падаткаабкла, спрошчвае і вядзенне падатковай справаздачнасці, бухгалтарскага ўліку.

Нельга не адзначыць, што асноўныя моманты прымянення спрошчанай сістэмы цалкам адпавядаюць тым падыходам, якія прадугледжваюцца ў праекце Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**— Вы ўзгадалі пра Падатковы кодэкс, які, як вядома, цяпер распрацоўваецца. У якім ён стане і што зменіцца з яго ўвядзеннем?**

— Распрацоўка праекта Падатковага кодэкса пачалася ў 1995 годзе. За гэты час спецыялістамі міністэрстваў фінансаў і эканомікі, а таксама Дзяржаўнага падатковага камітэта (да работы былі падключаны і іншыя спецыялісты) падрыхтаваны даволі цэласны варыянт гэтага дакумента, які ў канцы 1997 года быў прадстаўлены Савету Міністраў. Цяпер жа Міністэрству фінансаў даручана забяспечыць канчатковую дапрацоўку яго.

Кадыфікацыя падатковага заканадаўства дасць магчымасць звесці ў адно цэлае, у адным дакуменце, усе неабходныя моманты, якія выкарыстоўваюцца пры падаткаабкладанні. Акрамя паляпшэння сістэмнасці падаткаабкладання, укараненне ў практыку Падатковага кодэкса, максімальна уніфікаванага з аналагічным дакументам Расійскай Федэрацыі, паводле папярэдніх разлікаў, дазволіць забяспечыць зніжэнне падатковага ўзроўню не менш чым на 1,5—2 працэнты да ВУП.

Хутчэй за ўсё, ужо ў другой палове гэтага года праект разгледзяць дэпутаты Нацыянальнага сходу, імі таксама павінна быць разгледжана нарматыўная база, якая забяспечвае ўкараненне Падатковага кодэкса ў практыку. Можна разлічваць, што ён будзе ўведзены ў дзеянне з пачатку 1999 года.

**— Міністэрства фінансаў і Нацыянальны банк — два галоўныя фінансавыя інстытуты ў дзяржаве, але задачы, якія стаяць перад імі, часам не зусім супадаюць. Напрыклад, не сакрэт, што Мінфін жадаў бы мець паболей грошай, а Нацыянальны банк імкнецца абмяжоўваць іх выпуск. Як у гэтым плане ўзаемадзейнічаюць Мінфін і НБ?**

— Калі гэтыя два інстытуты не будуць працаваць узгоднена, то будзе цяжка ўсім. Мы «асуджаны» працаваць разам па пытаннях грашова-крэдытнай палітыкі, але паважаючы, скажам так, сітуацыю і задачы кожнага з нас. І мы ўвогуле знаходзім агульную мову, хоць, трэба прама прызнаць, прыходзіцца нямала спрачацца. Напрыклад, у нас з'явілася праблема рэалізацыі дзяржаўных каштоўных папер. Мы лічым, што даволі моцна сціснута грашовая маса — адсюль і праблема. У сваю чаргу Нацбанк мяркуе, што нам трэба павысіць даходнасць каштоўных папер. Адным словам, ёсць спрэчнае пытанне адносна велічыні грашовай масы, хоць, вядома, гэтае пытанне — вельмі складанае. Скажам, варта з'явіцца свабодным грашам, і яны тут жа могуць аказацца на валютным рынку ў Расіі і там пачаць ціск на наш знешні валютны курс. У той жа час пры недастатковасці грашовай масы не варта чакаць, каб своечасова плаціліся падаткі, не было бартэру і г. д...

Пры гэтым зазначу: мы ў мінулым годзе не імкнуліся выбраць прамыя эмісійныя крэдыты Нацбанка, паколькі яны, сапраўды, — эмісійныя, г. зн. нічым не забяспечаныя. З дапамогай казначэйскіх абавязацельстваў мы нават забіралі грошы з абарачэння. Так, велічыня эмісійных крэдытаў была вызначана ў межах 5 трыльёнаў рублёў — узялі толькі палову. А калі ўлічыць, што грошы засталіся на дэпазітах, то чыста эмісійны прырост крэдытаў ураду склаў 1,5 трыльёна. Гэта няшмат. Калі ўжо лічыць, што інфляцыя бярэ свой пачатак ад грашовых эмісій і дэфіцыту бюджэту, — мы ў гэтых пытаннях вытрымліваем жорсткую лінію. Мы цалкам укладваемся ў максімальныя 3 працэнты дэфіцыту, якія рэкамендуюцца Еўрапейскім супольніцтвам. Нагадаю, у нас за мінулы год дэфіцыт склаў 2,1 працэнта.

Тут жа варта прывесці і наступныя лічбы: на сёлетні год сума эмісійных грошай вызначана ў межах 6 трыльёнаў рублёў. І на 20 трыльёнаў рублёў мы мяркуем прадаць каштоўных папер — з дапамогай жа Нацыянальнага банка. Вядома, выпусціць каштоўных папер на 20 трыльёнаў — гэта нямала, магчыма, нават давядзецца павысіць іх даходнасць, і тым не менш у нас пакуль што адносна невялікая ўнутраная запазычанасць.

На жаль, вельмі складана прыцягнуць знешнія пазыкі. Знешнія крэдыторы патрабуюць свабоднага валютнага рынку ў нас, больш высокіх тэмпаў прыватызацыі і поўнай адмовы ад умяшання ў цэнаўтварэнне. Далёка не ва ўсім з імі можна пагадзіцца, да таго ж яны не такія ўжо бясспрэчныя настаўнікі, калі прагледзелі нядаўні фінансавы крызіс у Паўднёва-Усходняй Азіі. Аднак бясспрэчна і тое, што нам трэба паляпшаць адпаведны імідж дзяржавы.

**— На гэты год адной ці не з важнейшых задач з'яўляецца задача ўтрымання інфляцыі ў зададзеных параметрах. Ці ўдасца ўкласціся ў іх?**

— Я па-іншаму лічыць не магу. Будзе зроблена ўсё, прынамсі з боку Міністэрства фінансаў, каб гэтыя параметры былі вытрыманы, хоць у студзені і не ўдалося ўкласціся ў вызначаны дапушчальны паказчык. Тут жа варта зазначыць: ёсць пытанні ў гэтым плане, якія не паддаюцца рэгуляванню. У прыватнасці, нялёгка процістаяць інфляцыйнаму ціску праз імпартнае паступленне тавараў, цэны на якія мяняюцца незалежна ад нашай волі.

**— У сёлетнім годзе намячалася пералічыць падаходны падатак грамадзян за мінулы год, зыходзячы з сукупнага гадавога даходу, што выклікала нямала пярэчанняў у грамадстве. Цяпер, як вядома, дзеянне адпаведных рашэнняў прыпынена. Якім будзе канчатковае рашэнне?**

— Не хачу апярэджваць падзеі, зазначу толькі: пытанні дэкларавання разглядаліся спецыяльнай камісіяй, і ўсе сходзяцца на тым, што гэта акцыя не зусім добра падрыхтаваная і, можа, нават заўчасная. Сапраўды, яна многіх застала знянацку... Тым не менш, пераходзіць да падобнага парадку ўплаты падаходнага падатку трэба — гэта не выклікае сумненняў. Дарэчы, падобны парадак, які ўжо сам па сабе прывучае грамадзян добра лічыць усе свае даходы і расходы, — павышае і іх цікавасць да таго, як расходуюцца сродкі ў дзяржаве.

## «ПРЫЁМНАЯ ГАДЗІНА» МІНІСТЭРСТВА ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ

**(Працяг. Пачатак у №№ за 19 і 20 лютага.)**

***— Чаму пры атрыманні жылля (будавалі з дапамогай субсідыі) ніхто нас не папярэдзіў аб аплаце на амартызацыю. Канешне, тыя, хто жывуць у старых будынках, уносяць на гэтыя патрэбы капейкі, а мы — 100 тысяч рублёў у месяц...***

**Чарняўская М.С., Ключнік Т.С., г. Мінск**

— Згодна з існуючымі нормамі, адзін працэнт ад балансавага кошту дома (кватэры) заўсёды адлічваецца на капрамонт. Канешне, у жыхароў новых будынкаў гэтыя сумы нашмат большыя, чым у жыхароў тых жа «хрушчовак», аднак трэба ўлічваць і той факт, што апошнія ўносілі сродкі на працягу шэрагу гадоў, амаль усё жыццё. Што ж датычыцца новабудоўляў, то можна сказаць адно — сёння мы працуем над тым, каб адлічэнне на капрамонт зменшыць у сувязі з выхадам Закона «Аб сумесным домаўладанні». Можа ў гэтым годзе мы і выйдзем на нейкія іншыя параметры, ёсць прапановы аб змяншэнні амартызацыйных выплат да 0,25—0,5 працэнта балансавага кошту. Змяненні ў бок змяншэння, хутчэй за ўсё, і закрануць менавіта новабудоўлі.

***— На падставе якіх нарматыўных актаў пенсіянерам адмянілі льготы пры аплаце за камунальныя паслугі?***

**Пушкін М.В. (Асіповіцкі раён), Ганчарова Т.І. (г. Мінск)**

— У адпаведнасці з тлумачэннем Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 3.03.97 г. № 04-3-358 і згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1.09.95 г. № 349 «Аб упарадкаванні льгот для асобных катэгорый грамадзян» прыпынена прадастаўленне непрацуючым ветэранам працы і Узброеных Сіл вызначаных ільгот. У сувязі з гэтым жыллёва-эксплуатацыйнымі арганізацыямі было з 1 чэрвеня 1997 года прыпынена прадастаўленне льгот па аплаце жыллёва-камунальных паслуг непрацуючым ветэранам працы.

***— Наш дом знаходзіцца на балансе ЖБК. Якім чынам вырашыць пытанне аб яго перадачы на абслугоўванне ЖЭСа?***

**Сільвановіч Е.В., Мінск**

— Адказ паступіў з Галоўнага вытворчага ўпраўлення жыллёвай гаспадаркі Мінгарвыканкама: «Дом знаходзіцца на балансе кааператыва «Сувязіст» (Мінскія гарадскія тэлефонныя сеткі). У 1996 годзе праўленне ЖБК звярталася па пытанню перадачы дома на тэхнічнае абслугоўванне. Улічваючы той факт, што вонкавыя сеткі на баланс адпаведных устаноў не перададзены, у прыёмцы на тэхнічнае абслугоўванне адмоўлена. Разлікі па камунальных паслугах робіць кааператыў «Сувязіст». З 1996 года да сённяшняга часу зваротаў аб перадачы дома на абслугоўванне з боку ЖБК не было...»

***— Я пенсіянер, жыву ў драўляным доме, які не рамантаваўся амаль 40 гадоў. Знос будынка складае 78 працэнтаў. Рамонту дабіваюся амаль 10 гадоў. У рэшце рэшт вясной гэтага года павінен пачацца рамонт. Ці маю я магчымасць пасля заканчэння гэтых работ палову дома набыць ва ўласнасць? Па якому кошту?***

**Аляксандрава Т.В., Баранавіцкі раён**

— У адпаведнасці з Законам «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» прыватызацыі падлягаюць займаемыя жылыя памяшканні ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду, незалежна ад іх фізічнага зносу. Прыватызацыя жылля грамадзянамі Рэспублікі Беларусь робіцца з абавязковым залікам жыллёвай квоты. Тая частка жылога памяшкання, якая перавышае велічыню жыллёвай квоты (сумы квот), падлягае выкупу: у дамах, што ўведзены ў эксплуатацыю да 31 снежня 1991 года, — у цэнах 1991 года; у дамах, што ўведзены пазней, — у цэнах, якія дзейнічалі на момант уводу дома ў эксплуатацыю. Кошт прыватызаваных жылых памяшканняў пасля капітальнага рамонту вызначаецца зыходзячы з таго, што абнаўленне існуючых канструкцый дома не павялічвае яго балансавы кошт. Павелічэнне кошту адбываецца ў выпадку дадатковага будаўніцтва (падбудоў, прыбудоў), усталявання дадатковых інжынерных сістэм і г.д.

***— Якім чынам будзе будавацца тарыфная палітыка камунальнай галіны ў бліжэйшы час? Ці чакаць радыкальнага павышэння плацяжоў?***

**Дземідаў С.Н., г. Гомель**

У адпаведнасці з лістом Камітэта цэн пры Міністэрстве эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 5.02.98 г. № 81-7 8-167 і, кіруючыся заявай Савета Міністраў і Нацыянальнага банка ад 9.09.97 г., у мэтах выканання параметраў інфляцыі тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва, што былі ўведзены з 1 верасня 1997 года, не павысяцца да заканчэння ацяпляльнага сезона.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

**(Заканчэнне будзе.)**

## А сябе пашкадаваў

**Рабочы ПМК-5, які пражываў у Брэсце па вуліцы Герояў абароны, шмат піў, а гэта выклікала ў сям'і скандалы.**

Жонка падала на развод, але суд улічыў, што ў сям'і ёсць двое дзяцей, даў бацькам тры месяцы на прымірэнне.

Калі муж у чарговы раз напіўся, узнікла сварка, якая закончылася трагічна. Рабочы зарэзаў жонку і заснуў побач з ёю, а калі прачнуўся, то з адчаю ці страху разануў сябе па жываце і з перапуду кінуўся ў міліцыю.

Цяпер забойцу лечаць, а там і судзіць будуць.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*XVIII зімовыя Алімпійскія гульні*

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АБЯЦАЕ РАЗАБРАЦЦА З ПРЫЧЫНАМІ АСОБНЫХ НЯЎДАЧ У НАГАНА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які знаходзіцца на зімовай Алімпіядзе ў Нагана, уважліва сочыць за выступленнямі сваіх землякоў, глыбока аналізуючы памылкі, дапушчаныя трэнерамі і некаторымі спартыўнымі кіраўнікамі пры падрыхтоўцы нашых алімпійцаў. На сустрэчы з журналістамі ён паведаміў, што прыехаў на Алімпіяду не толькі ў якасці прэзідэнта НАК, але і як кіраўнік беларускай дзяржавы, з тым каб паглядзець, якія віды спорту трэба развіваць у нас, якім з іх надаць дзяржаўны статус. Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на той факт, што рэспубліка аказвае сваім алімпійцам усямерную падтрымку.

Прэзідэнт сказаў таксама, што асабіста фарміраваў алімпійскую дэлегацыю Беларусі ў Нагана. «Калі вернемся ў Мінск, — папярэдзіў ён, — разбяруся з усімі чыноўнікамі і трэнерамі, чые выхаванцы не апраўдалі нашых надзей».

Адказваючы на пытанне, на якой Алімпіядзе магла б выступіць аб'яднаная расійска-беларуская зборная, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ўжо выходзіў з такой прапановай, але падтрымкі не атрымаў. «З боку Мінска няма ніякіх перашкод для стварэння адзінай зборнай каманды алімпійцаў, але супраць гэтага настроены чыноўнікі ў Алімпійскім камітэце Расіі», — заявіў прэзідэнт. Паводле яго слоў, Беларусь хацела б таксама, каб яе вядучыя хакейныя і футбольныя клубы ўваходзілі ў расійскія спартыўныя лігі, паколькі гэта будзе садзейнічаць росту майстэрства беларускіх спартсменаў. «Я лічу, што павінен вырашыць гэту праблему, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — На Алімпіядзе, напрыклад, мы не хацелі, каб у папярэдніх турнірах па хакею сустрэліся расійская і беларуская зборныя, а калі так усё ж атрымалася, то перажывалі, каб нашы хакеісты не вельмі выматалі расійскую зборную, за якую мы будзем балець на рашаючых гульнях».

Прэзідэнт выказаў горыч і шкадаванне наконт таго, што пакуль марудна ідзе працэс інтэграцыі Расіі і Беларусі. «Вельмі не хацелася б, каб мы адзін аднаго страцілі», — сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы.

Закранаючы падзеі на Алімпіядзе, Аляксандр Лукашэнка выказаў глыбокае расчараванне ў сувязі з тым, што ён убачыў нямала выпадкаў несправядлівага судзейства. «Мне ўяўлялася, што ў спорце, — сказаў прэзідэнт, — менш бруду, чым у палітыцы, але гэта аказалася не зусім так. Часам спартсмены становяцца проста зброяй у руках пэўных людзей. У мяне засталося дваістае ўражанне ад Алімпіяды, на якой разам з цудоўнымі выступленнямі спартсменаў паўстала чыста камерцыйнае шоў».

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**

## Хакейны фінал пройдзе без удзелу канадцаў

Толькі два дні застаецца да завяршэння XVIII зімовых Алімпійскіх гульняў у Нагана. Усе надзеі беларускіх балельшчыкаў на чарговы медаль звязаны з сённяшняй эстафетнай гонкай на 4х7,5 км мужчын-біятланістаў, якая пачнецца ў 6 гадзін раніцы па беларускаму часу.

Напярэдадні ў пяці разыграных камплектах медалёў нашы мелі дачыненне толькі да адной дысцыпліны — жаночага лыжнага марафона — гонкі на 30 км. Прыемна, што беларуская лыжніца Алена Сінькевіч заваявала высокае 12-е месца сярод 58 стартаваўшых. Дарэчы, беларуска больш чым на хвіліну абышла сёлетнюю алімпійскую чэмпіёнку расіянку Вольгу Данілаву. Астатнія нашы лыжніцы — Святлана Камоцкая, Людміла Каролік і Ірына Скрыпнік занялі месцы ў пятым дзесятку.


Павел БУРЭ закінуў першую шайбу.

Нечаканасцю ўчарашняга дня стаў вынік хакейнага паўфінальнага матча Канада—Чэхія. Асноўны час гульні завяршыўся ўнічыю — 1:1. Овертайм ніякіх змяненняў не прынёс. Усё вырашыла серыя булітаў. Варатар чэхаў Дамінік Гашэк ашаламіў хакеістаў Краіны кляновага ліста сваёй непрабівальнасцю, узяўшы ўсе пяць булітаў канадцаў. Падначаленыя Івана Глінкі ў сваю чаргу змаглі забіць Руа пераможную шайбу.

Пасля фінальнага свістка настаўнік канадскай зборнай Марк Кроўфард сказаў, што гэта быў адзін з самых выдатных матчаў паміж камандамі Канады і Чэхіі.

Яшчэ адзін паўфінальны матч — Расія—Фінляндыя завяршыўся перамогай першых — 7:4. Прычым пяць шайб у вароты скандынаваў забіў Павел Бурэ, якога на Алімпіядзе называюць «рускай ракетай». Такім чынам, залатыя медалі паміж сабой разыграюць хакеісты Расіі і Чэхіі ў дзень закрыцця Алімпійскіх гульняў — 22 лютага. А сёння ў матчы за трэцяе месца сустрэнуцца зборныя Канады і Фінляндыі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*Эксперымент «Звязды»*

## Спроба разжыцца салам каштавала рэдакцыі 2 мільёны 220 тысяч рублёў



ЗАДУМА. РУЖОВАЯ

Летам мінулага года рэдакцыя ўзялася «выгадаваць» свінчо, каб параўнаць потым суму матэрыяльных і маральных выдаткаў з вынікам у выглядзе сала, мяса і каўбас. «Звязда» ў асобе аўтара на працягу года сачыла за працэсам росту двух кабанчыкаў у хляве бацькоў, што жывуць у Міёрах.

ФІНАЛ. ВАРЫЯНТ 1. СУМНЫ

Каму не даводзілася чухаць патыліцу, калі чарга за патрэбным таварам заканчвалася якраз на ім? На жаль, «Звязда» таксама апынулася ў ролі нешчаслівүца.

Чамусьці маім бацькам з парасятамі не вельмі шанцуе. То хварэюць, то не растуць, то не ядуць. А ў гэты раз дык увогуле «птушка шчасця» праляцела міма за сотні кіламетраў.

Нагадаю, што першым гадаванцам стаў ружовенькі Прошка, а праз месяц кампанію яму склала жвавая Лушка.

Спачатку на скаргі маці наконт дрэннага апетыту кабанчыкаў я не звяртала ўвагі: яна, колькі гадуе скаціну, задаволенай ёю ніколі не бывае. Тым не менш, гэта ніколі не перашкаджала сям'і есці тушонку і каўбасы ледзь не ўвесь год. Вядома, не штодзённа, але сям'і з чатырох чалавек хапала. Аднак на гэты раз усё аказалася куды больш сур'ёзна, чым можна было чакаць.

Прошка за пяць месяцаў, якія знаходзіўся ў бацькоўскім хляве, так і не здолеў ператварыцца ў вялікага вепрука. Напачатку маці шпігавала яго вітамінамі і нейкімі таблеткамі, але есці парасё з ахвотай так і не стала. Прошка выцягнуўся ў даўжыню, у бакі ж не раздаўся. Ветэрынар дапамагчы паўгадоваму кабанчыку аказаўся не ў стане: той здох. Атрымалася, што 1 мільён 420 тысяч бацькі выкінулі на вецер. У вышэйназваную суму вылілася ім набыццё парасяці (470 тысяч), трох пяцідзесяцікілаграмовых мяхоў камбікорму па 250 тысяч, лякарстваў, малака і хлеба ў першыя два тыдні жыцця Прошкі ў новым хлеве. У роспачы ад падобнага фіналу маці вырашыла развітацца і з другім парасём. Лушку прадалі суседзям за 1 мільён. Калі не лічыць, што чатыры месяцы свінка ела дармавую бульбу і буракі, то гэты тавар прынёс нават 200 тысяч прыбытку. У суме ж страты маіх бацькоў склалі 2 мільёны 220 тысяч рублёў.

Гэта толькі грашовыя ўкладанні. Шмат гэта ці не — каменціраваць не буду. Заўважу толькі, што сумарны даход маіх бацькоў за месяц летам і восенню не перавышаў 1 мільёна 300 тысяч, і па хлеб, малако, смятану і масла бацькі хадзілі не ва ўласны агарод. Колькі ж пакладзена сіл і часу на вырошчванне буракоў і бульбы, якіх, між іншым, свінні з'елі па два мяхі, на ледзь не штодзённыя выезды па траву за мяжу горада і ўласна догляд парасят (кармленне двойчы ў дзень, уборка «пакояў»), то маятнік яўна пахіснецца ў бок, процілеглы жаданню ўтрымліваць скаціну.

ФІНАЛ. ВАРЫЯНТ 2. АПТЫМІСТЫЧНЫ

На гарышчы хаты маёй бабулі вісяць трыццаць кольцаў каўбас, два кумпякі і дзве лапаткі. У склепе на паліцы выстраіліся ў шарэнгу дзесяць слоікаў тушонкі. Сала ў тры пальцы таўшчынёй соліцца ў кубле. Там жа і паляндвіца ляжыць. Яшчэ бабуля наварыла халоднага з вушэй і ног парасяці. Галава пайшла на булён — смачнай была тая поліўка, налягалі на якую і дочкі з зяцямі, і ўнукі, якія таксама дапамагалі свінчо калоць і разбіраць. Ныркі і лёгкія перакруцілі на мясарубцы: хатняя ліверная каўбаса ні ў якое параўнанне з магазіннай не ідзе, ды і бліны мучныя з ліверам — смаката. Натапілі тлушчу пяцілітровае вядзерца. Ад вялікага вепрука засталіся толькі косці — усё пайшло ў ход. Нават пятачок. А якое смачнае тлустае мяса! Рэшткі ж кішак ідуць на прыгатаванне ў печы неверагодна сытнай дранкі з бульбы. Усе ўнукі і праўнукі мараць, каб бабуля пачаставала «бульбянымі блінамі ў кішках» з залацістай скарынкай.

Але пакінем гастранамічную тэму. Мяса з бабулінага парсюка атрымалася 110 кілаграмаў. Тут усё: і паляндвіца, і сала, і рэбры, і кумпяк. Калі лічыць сярэдняй цану за кілаграм мяса 130 тысяч (на Камароўскім рынку сёння шыя каштуе ад 140 да 180 тысяч, кумпяк — ад 110 да 160 тысяч, рэбры — 80—100, грудзінка — 95—110 тысяч рублёў), то стодзесяцікілаграмовы «кавалак» мяса абыходзіцца ў 14 мільёнаў 300 тысяч рублёў. Вядома, адразу столькі не купіць. Але цэны на сталічным рынку і базары раённага цэнтра істотна адрозніваюцца. Знаёмая прадавала ў маленькім горадзе свініну па 85 тысяч за кілаграм. Вышэй цану не паднімеш — не купяць. Там цану ўсё ж дыктуюць мясцовыя ўмовы. Цётка выручыла 9 мільёнаў. Папярэдне гэтая свіння прынесла яшчэ 4,5 мільёна — было ў яе трынаццаць парасят. Але чаго каштавала пажылой жанчыне выгадаваць іх адной!..

ВЫСНОВЫ. НЕВЯСЁЛЫЯ

Калі заплюшчыць вочы на нязручнасці вядзення ўласнай гаспадаркі, а таксама не ўлічваць дармавую працу яе ўладальніка, то выснова напрошваецца адназначная: гадаваць жывёлу выгадна. Адзін вяпрук у сярэднім з'ядае 6-7 мяхоў камбікорму, а гэта выліваецца ў паўтара мільёна, можа, крыху болей. Грашовыя страты за час, пакуль свіння рохкае ў хлеве, і да трох мільёнаў не дацягнуць. А на тры мільёны ці шмат купіш мяса і каўбас?

Ды і ці ёсць тыя грошы ў вясковых людзей? Калі з'яўляецца якая капейчына, заўсёды знойдзецца куды яе ўкласці. Так што сапраўды глыбінка сябе пракорміць, нават калі замест зарплаты будзе атрымліваць муку ці зерне. Бо звыкліся беларусы, што жыць складана і дапамогі чакаць няма адкуль. Вось і гнуць спіны ўсю цёплую пару года на сваіх сотках ды гектарах, а адпачываюць узімку ля экранаў тэлевізараў, дзе паказваюць маляўнічыя курорты экзатычных краін.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## Алена КАЗАНЦАВА:

# «ПЕСНІ — ДЛЯ ЎСІХ, КАХАННЕ — ДЛЯ АДНАГО»



***Не многія беларускія артысты могуць пахваліцца вядомасцю і папулярнасцю за межамі Беларусі. Выключэнне — ветэраны яшчэ савецкай сцэны, якіх настальгічна раз-пораз прыгадваюць у Расіі. Новае пакаленне толькі робіць спробы заявіць пра сябе на самым блізкім да нас вялікім музычным рынку, і асаблівых поспехаў пакуль не мае. А ёсць у нашай краіне, у Мінску, чалавек, які хоць і працуе ў досыць элітарным жанры аўтарскай песні, але без вялікіх намаганняў стаў адным з самых папулярных у Расіі аўтараў, ацэнены і прызнаны на ўзроўні «зорак» гэтага жанру — Алена Казанцава.***

***Часам узнікае адчуванне, што ў Расіі Алену Казанцаву ведаюць і любяць нават болей, чым у Беларусі, бо менавіта там наша аўтарка выступае часцей, там яе здымаюць і запісваюць, там яе выдаюць. І нядаўна нават выдалі першы ў яе жыцці кампакт-дыск «На доўгую памяць».***

*Я всем нужна — и никому.*
*А мне бы надо — одному.*
*Ну — двум. Ну — трём. И всё — предел.*
*И чтоб четвёртый не хотел.*
*А то их много — вся страна.*
*А я — одна...*

— Кампакт-дыск — дзіва для Беларусі, а ў Маскве хіба толькі лянівы яшчэ не займеў свой CD, — кажа Алена Казанцава. — Сярод больш-менш вядомых аўтараў я апошняя. Я не вельмі шмат прыкладала намаганняў, скажу шчыра, гэта цалкам ідэя і арганізацыя аднаго маскоўскага знаёмага, Ігара Грызлава, які займаецца выданнем аўтарскай песні, — Юлія Кіма, Міхаіла Шчарбакова, вось дайшла чарга і да мяне, я належу да шэрагаў яго любімых аўтараў.

Запісалі мы альбом хутка, бо я лічу, што ён атрымаўся прыстойным, але, можа, не выдатным. Затое — прыгожым, вокладку рабілі ў Мінску — Дзіма Строцаў з сябрамі. Найбольш усіх уражвае колькасць песень на кампакце, усе смяюцца, бо такога яшчэ не бачылі — 43 песні. А яны ж у мяне кароценькія, ёсць і па хвіліне.

Была ідэя выпусціць яшчэ адзін мой кампакт славутай фірмай «Маскоўскія вокны», але тут ужо я вырашыла пачакаць, трэба знайсці нейкую новую канцэпцыю, бо не хочацца паўтарацца. А так — яшчэ некалькі аўдыёкасет выйшла ў Маскве. Да Мінска, на жаль, мой кампакт «На доўгую памяць» яшчэ не даехаў, толькі некалькі штук для сяброў, а вось у Маскве ён прадаецца, і я, калі там выступаю, прадаю на канцэртах. Дарэчы, на адным з апошніх сваіх выступленняў у Маскве я ўпершыню ў жыцці ўбачыла, як выстраілася чарга за маімі кампактамі і касетамі, проста хапалі з рук, і многім не хапіла. Гэта было падчас здымак аднаго з выпускаў тэлепраграмы «В нашу гавань заходили корабли», у якой гучыць песенны фальклор XX стагоддзя.

**— А твае песні маюць дачыненне да фальклору?**

— У мяне ёсць некалькі стылізацый пад дваровыя, падлеткавыя песні, а праграма «В нашу гавань заходили корабли» калекцыяніруе менавіта падобныя творы. Кіруе гэтай радыё- і тэлеперадачай вядомы пісьменнік Эдуард Успенскі, аўтар «Чабурашкі». Нядаўна яму споўнілася 60 гадоў, але ён па-ранейшаму энергічны, абаяльны, сімпатычны, жывы, як і яго героі. Дык вось, у гэтым «гаванскім клубе» збіраюцца самыя розныя людзі, і старыя і маладыя, і спяваюць песні, якія ўжо сталі фальклорам — зэкаўскія, хуліганскія, дваровыя, пад'ездныя, якія заўгодна, і запрашаюць да сябе ў госці розных вядомых людзей, артыстаў, якія таксама прыгадваюць свае любімыя песні, чутыя, можа быць, у далёкай маладосці. Вось мяне тая публіка вельмі палюбіла і заўсёды чакае майго выступлення.

Дарэчы, адзін «інцыдэнт» мяне вельмі парадаваў: у праграме ўдзельнічала група як заўсёды бедных студэнтаў, якія ходзяць па цягніках, спяваюць песні і такім чынам зарабляюць грошы. Успенскі пацікавіўся, а што яны спяваюць? Кажуць, вось, напрыклад, «Я скучаю на матрасе лёжа». А гэта якраз мая песня!

***Чалавецтва дзеліцца на мужчын і жанчын, і сэнс гэтага — у каханні. Алена Казанцава — жанчына, паэт — лічыць каханне самай вялікай каштоўнасцю, і адзінай тэмай, вартай яе таленту.***

*Привет, старушка-буквочка-луна!*
*Какая ночью в мире тишина.*
*Тебе-то что, ты можешь быть одна,*
*А я любить кого-нибудь должна,*
*Иначе мне хана.*

**— Пагаворым пра мужчын — напярэдадні мужчынскага свята. Гэта твая тэма — мужчыны, адносіны з імі. Якім ты бачыш сапраўднага мужчыну?**

— У мужчыны павінна быць «слова гонару», усё астатняе потым. Таму што калі няма «слова гонару», то гэта не мужчына, сёння ў яго так, заўтра не так, як у капрызнай жанчыны. Для мяне гэта ўжо напалову мужчына. Сапраўдны мужчына — гэта нешта надзейнае.

**— Што яшчэ табе не падабаецца ў мужчынах?**

— Пра адно я ўжо сказала — адсутнасць «слова гонару», другое — часта яны пачынаюць занадта ўжо насіцца са сваёй незалежнасцю!

А што такое незалежнасць, яе ўвогуле ў прыродзе не існуе, такой поўнай, абсалютнай. Нават калі ты будзеш жыць на бязлюдным востраве, там будзе тыгр, ён будзе хадзіць на паляванне, вось табе і канец незалежнасці. А мужчыны гэтую сваю дурацкую незалежнасць проста ставяць на п'едэстал! На самай справе ёсць рэчы больш важныя, цікавыя, патрэбныя, ды і больш узважаныя, больш неабходныя ў жыцці. Але да разумення гэтага мужчыны прыходзяць толькі з гадамі.

Яны губляюць, можа, самае добрае, што можа быць у адносінах паміж мужчынам і жанчынай, яны губляюць шчырасць — самае важнае, без чаго нецікава жыць, і не трэба. Можна, канешне, жыць. Але калі ты сам прытвараешся, іграеш ролю, і перад табой нехта ірае ролю, то потым ужо не разумееш — ці ты жывеш, ці гэта толькі рэпетыцыя жыцця.

**— А ёсць нешта добрае ў мужчынах?**

— *(Смех).* Мабыць, ёсць, калі мы іх любім. Мужчыны часам такія безабаронныя, хоць ім здаецца, што яны моцныя, разумныя, цынічныя.

Жанчына, можа, і слабей у нейкім практычным сэнсе, але яна больш трывалая, больш мудрая, у яе больш ясная мэта ў жыцці і менш ваганняў. А мужчыны не вытрымліваюць нават маленькага выпрабавання — не могуць зрабіць выбар, прыняць рашэнне, махнуць рукой на няўдачу. Ім уласная асоба здаецца такой значнай, і ўсе праблемы — сусветнага маштабу! І калі мужчына трапляе ў якую-небудзь непрыемную сітуацыю, ці — не дай Бог — захварэе, то гэта смяротны нумар, канец свету!

Жанчыны ж практычна не хварэюць. Калі ў іх ёсць дзеці, сям'я, яны не паспяваюць хварэць, ім нельга. Так і з іншымі праблемамі — жанчына хутка вырашае адну і пераходзіць да наступнай. А мужчына нават самую дробязную рэч ператварае ў трагедыю, і можа смакаваць яе ўсё жыццё.

**— Нейкім чынам мы ізноў прыйшлі да непрыемнага ў мужчынах...**

— Дык вось, гэтая безабароннасць часам бывае досыць прыемнай. Калі злятае маска цынізму, у нас ёсць магчымасць праявіць ласку і спачуванне, адчуць сябе вышэй за мужчыну. Што яшчэ ў мужчынах ёсць добрага? Калі-нікалі яны купляюць мне апельсіны з бананамі і катаюць на таксі. Мужчына, які возіць на таксі, — блізкі да ідэалу. Шмат, канешне, у мужчын ёсць добрых якасцяў, але звычайна гэта добрае прыходзіцца з іх даставаць, як на допыце. Усё сваё добрае мужчыны стараюцца схаваць на самае дно, каб толькі ніхто не здагадаўся. І прыходзіцца выцягваць. Гэта тое ж самае, што лянівую карову гнаць на зялёны лужок пасвіцца: ёй і есці хочацца, і лянота ісці. Вось каб ёй сюды прынеслі пажаваць! А самае цікавае, што калі іх ужо прымусіш на які-небудзь добры ўчынак, ён потым сам такі шчаслівы, ён не ведаў, што ў ім схавана столькі станоўчай энергіі, столькі прыгожых якасцяў, не звычайных, а для свята. А я заўсёды кажу: мне патрэбна свята! Дык вось, наша жаночая задача — заўсёды старацца вывесці іх з паўсоннага душэўнага стану, наша задача знайсці ў мужчынах усё самае лепшае і прымусіць іх гэта раскрыць! І калі нам гэта ўдасцца, то нашмат меней у жыцці слёз, непаразуменняў, гора і ў мужчын, і ў жанчын. Сапраўдны мужчына павінны зрабіць жыццё каханай цудоўным!

*Ну отвезите на Юго-Запад,*
*духи французские подарите*
*и приходите на этот запах,*
*и говорите, и говорите...*

**Надзея КУДРЭЙКА.**

**P.S.** 1 сакавіка на сцэне Мінскага Палаца прафсаюзаў Алена Казанцава выступіць з праграмай «Спадзяюся, што ўсё яшчэ зменіцца».

777

# БЕЛАРУСЫ — СПРАДВЕЧНЫЯ НАШЧАДКІ НОЯ

**Стыхія, што абрынулася на Паўднёвую Польшчу і Чэхію, Ніжнюю Аўстрыю ў ліпені мінулага года, прымусіла здрыгануцца ўвесь свет: за некалькі дзён літаральна ў цэнтры Еўропы пад вадой апынуліся вялікія плошчы, былі затоплены дзесяткі населеных пунктаў, тысячы кіламетраў дарог. Натуральна, блізкасць да гэтых краін прымусіла тады крыху пахвалявацца і беларусаў: а раптам? Прайшоўшы напярэдадні ў чэрвені ўраган у поўнай меры прадэманстраваў усю моц стыхіі, таму падставы для хваляванняў і трывог былі цалкам абгрунтаваныя. Аднак — абмінула, балазе ніводная з рэк, на якіх у нашых суседзяў назіраўся вялікі пад'ём вады, на тэрыторыю Беларусі не трапляе, да таго ж у нас няма гор, — як вядома, менавіта Карпаты ў немалой ступені паўплывалі на маштабы паводкі.**

**Але, як кажуць, апарыўшыся малаком і на ваду падзьмухаеш. Тым больш што паводка (як, дарэчы, і ўраганы са смерчамі, аб якіх «Звязда» пісала ў адным з мінулых выпускаў рубрыкі) — не такая ўжо рэдкая з'ява для Беларусі.**

### ЧАКАЙ ПАВОДКУ НА ПРАЦЯГУ ГОДА...

Паводка — параўнальна кароткачасовае рэзкае падняцце ўзроўняў вады ў рэках ад вялікіх дажджоў, у няўстойлівую зіму — пры адлігах (тое, што мы назіралі сёлета ў сярэдзіне студзеня), па іншых прычынах. Найбольшую вышыню і працяглаць мае ў канцы лета і восенню, калі ідуць зацяжныя дажджы. На паўночным усходзе краіны, дзе даліны рэк глыбокія і вузкія, узровень вады на сярэдніх рэках — 5-6 метраў, на малых 3—3,5 метра над самым нізкім летнім узроўнем. У асобныя гады на некаторых рэках узроўні паводкі перавышаюць веснавое разводдзе на 1—1,5 метра. Працягласць іх звычайна складае 20—30 сутак. Паводкі здараюцца адзін-два разы за лета і восень, у басейнах Нёмана, Буга, на верхніх прытоках Бярэзіны і Сожа бываюць часцей, у басейне Нёмана — да 5-6 разоў за лета і восень, узроўні перавышаюць нізкі летні ўзровень на 1,5—2,5 метра. На поўдні краіны, дзе поймы рэк вельмі шырокія, у час паводкі звычайна падняцце ўзроўняў невялікае (да 1 метра), адбываецца яшчэ да заканчэння веснавога разводдзя.

Перш чым гаварыць аб «вялікай» вадзе, якая палохала людзей у апошнія дзесяцігоддзі, цікава будзе зазірнуць у больш раннюю гісторыю, у прыватнасці нашай сталіцы.

### «ВЯЛІКАЯ ВАДА» РАЗБУРАЛА ДАМЫ

Калісьці, да пачатку інтэнсіўнай гаспадарчай дзейнасці і стварэння каскада вадасховішчаў на Свіслачы, у межах Мінска ў выніку вялікіх разводдзяў і паводак затапляліся вуліцы, жылыя кварталы, разбураліся збудаванні і будынкі. У канцы мінулага стагоддзя параўнальна нешырокую раку ў цэнтры горада, у канцы Садовай вуліцы (раён музея Я. Купалы), перагароджвала Плябанская плаціна, якая знаходзілася ў сумесным карыстанні Архірэйскага дома і Свята-Траецкага (Залатагорскага) касцёла. Кожны з уладальнікаў меў вадзяныя млыны, размешчаныя па розныя бакі ракі. У час крыгаходу і веснавой паводкі тут утвараўся лёдавы затор, узровень вады павышаўся, яна выходзіла з нізкіх, неўмацаваных берагоў і затапляла прылеглыя кварталы, уключаючы Татарскую слабаду (да сучаснага Камсамольскага возера). Вада таксама паднімалася ў рэчышча Нямігі (прытоку Свіслачы), якая да таго часу стала звычайнай канавай, дзе збіраліся дажджавыя і снегавыя воды, натуральныя сцёкі, бо каналізацыі тады яшчэ не было. У ходзе інтэнсіўнай гарадской забудовы Няміга звужалася, хутка засмечвалася. Было дастаткова праліўнога дажджу, каб яна зноў выйшла з берагоў.

Вельмі высокае веснавое разводдзе адбылося на Свіслачы ў 1845 і 1888 гадах. Многія вуліцы Мінска былі затоплены, плынь зрывала і зносіла драўляныя пабудовы. Усе масты праз раку былі пашкоджаны. У 90-х гадах гарадское ўпраўленне крыху ўмацавала берагі Свіслачы, але ў красавіку 1900-га ў Татарскай слабадзе вада заліла цэлыя кварталы, знесла трухлявыя дамы беднаты.

— Адна з мацнейшых дажджавых паводак адбылася ў Мінску 20 сакавіка 1901 года. Дождж пачаўся напярэдадні вечарам і ішоў усю ноч, — расказвае навуковец-гідролаг, кандыдат геаграфічных навук Аляксандр Макарэвіч. — Тады выйшла з берагоў і нечакана паказала свой нораў Няміга. У шэсць гадзін раніцы Рыбны рынак (цяпер раён злучэння вуліц Нямігі і Астроўскага) апынуўся пад вадой. Затым была заліта вадой і тэрыторыя ад вугла Нова-Раманаўскай вуліцы (раён вуліц Раманаўская Слабада і Мяснікова) і да вугла вуліцы Школьнай (пачатак сучаснага праспекта Машэрава). Вада трапіла ў магазіны і падвальныя кватэры, якіх тут было шмат. Гэтая паводка нанесла вялікі ўрон насельніцтву горада.

### МІНСК ПАД ВАДОЙ

— Вадамерныя назіранні на рацэ былі арганізаваны ў Мінску толькі ў 1925 годзе, — гаворыць Аляксандр Макарэвіч. — І ўжо праз некалькі гадоў, у 1931 годзе, на Свіслачы было зарэгістравана, па ацэнках спецыялістаў, самае высокае за некалькі апошніх стагоддзяў веснавое разводдзе, якое ахапіла вялізную тэрыторыю басейна верхняга Дняпра. Прырода быццам бы загадзя падрыхтавалася. Восенню 1930 года ападкаў выпала ў 1,5 раза вышэй нормы. У другой палове лістапада адначасова з наступленнем маразоў утварылася снегавое покрыва. Зіма была ўстойлівая і суровая — нізкая тэмпература трымалася да красавіка, а запасы вады і снегу да гэтага моманту былі ў 1,5—2 разы вышэй нормы.

І вось гэтая велізарная маса снегу пачала хутка таяць. Да 15 красавіка ўзровень вады пачаў узнімацца: спачатку пакрысе, затым імкліва. Вада хлынула ў раку і перапоўніла яе. Пік разводдзя наступіў 22 красавіка. Па словах Аляксандра Аляксандравіча, максімальны расход вады ў Мінску ў той час складаў прыкладна 400 кубаметраў у секунду.

Стыхія ўтварыла ў горадзе шмат разбурэнняў. У раёне вуліц Няміга і Гандлёвая было затоплена шмат дамоў. Іх жыхары былі эвакуіраваны. Цалкам пад вадой апынуліся Татарскія агароды (раён цяперашняга Палаца спорту). Вуліца Савецкая (праспект імя Ф. Скарыны) ад цяперашняга Дзяржцырка да плошчы Перамогі таксама была затоплена, у выніку чаго рух гарадскога транспарту быў прыпынены. У многіх месцах былі размыты дарогі, разбураны масты. Рака ўтаймавалася толькі ў сярэдзіне мая.

Цяпер паводкі гораду не пагражаюць нягледзячы нават на тое, што ў перспектыве чакаецца далейшае змяненне воднага рэжыму Свіслачы — дадатковае перакідванне вады з басейна Віліі. Аднак верагоднасць затаплення вуліц ліўневымі дажджамі застаецца высокай.

### ПАВОДКА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Найбольшыя дажджавыя паводкі на рэках Беларусі былі ў 1962 годзе, самыя катастрафічныя, якія здараюцца прыблізна раз у сто гадоў, — увосень 1974 года ў басейне Буга і Прыпяці (аб іх мы раскажам асобна ў наступны раз). Зараз жа яшчэ колькі слоў аб леташняй паводцы ў нашых суседзяў, якую празвалі паводкай тысячагоддзя. Тады незвычайную «вялікую ваду» выклікалі бесперапынныя праліўныя дажджы, якія ішлі ў Чэхіі, Славакіі, Паўднёвай Польшчы. У выніку з берагоў выйшлі дзве буйнейшыя ракі Польшчы — Одра і Вісла, вада заліла дзесятую частку краіны. Пад вадой поўнасцю або часткова апынуліся сотні вёсак, дзесяткі гарадоў, у тым ліку такія буйныя цэнтры, як Аполе, Вроцлаў, Рацібуж, Кендзежын-Козьле.

Страты Польшчы ад стыхійнага бедства толькі паводле папярэдніх разлікаў ацэньваліся ў мільярд амерыканскіх долараў. Некалькі дзесяткаў чалавек загінулі...

У Чэхіі прыродная катастрофа таксама была прызнана самай вялікай за ўсю гісторыю. Найбольшую шкоду стыхія прынесла Усходняй Чэхіі і Маравіі — рэгіёнам, дзе вырошчваюцца лепшыя гатункі збожжа і вінаграду — аснова чэшскага сельскагаспадарчага экспарту. Без уліку страчанага ўраджаю папярэднія лічбы ўрону вагаліся ў межах 300 мільёнаў долараў.

Сляды паводкі, убачаныя на свае вочы нават праз два месяцы, уражвалі. Уявіце: імклівая горная рэчка, чыё рэчышча мудрагеліста блукае, пакрысе спускаючыся на раўніну. Яна неглыбокая, але даволі шырокая — 10—15 метраў разам са сцежкай на ўзроўні метровай вышыні пЪбач. І вось на дрэвах уздоўж гэтай дарожкі, на скалах на вышыні каля 1,5—2 метраў магутны паток, які займаў усю гэтую плошчу, пакінуў след у выглядзе смецця і засохлага ілу...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



**На здымку:** *адна з паводак, што напаткала Беларускае Палессе.*

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

***Вельмі былі здзіўлены пастаянныя наведвальнікі аднаго з самых прэстыжных лонданскіх аўкцыёнаў, калі вядучы аб'явіў наступны лот:***

***— «Сям'я» (3 курачкі і пеўнік. — Аўт.) пароды паўлаўская, пачатковая цана 50 тысяч долараў!***

***Здзіўленне змянілася спачатку смехам, калі некалькі багацеяў пачалі актыўна змагацца за права валодання гэтай сямейкай, а пасля таго як адзін з іх усё ж купіў птушак за 2,5 млн. (зразумела, долараў!), — ціхім шокам.***

# КУРЫЦА НЕ ПТУШКА?

ПАРОДА КУРЭЙ паўлаўская і ў лепшыя часы ў сябе на радзіме, у Расіі, ніколі не была шматлікай. Гэтых прыгожых птушак — на сярэбраным ці залацістым фоне раскіданы шматлікія сіне-чорныя плямкі, на нагах — быццам лямцавыя валёнкі з пер'я, а на галаве таксама з пер'я — шыкоўны вянец — разводзілі ў асноўным апантаныя аматары-птушкаводы. Ды і толку ад іх, прызнацца, было не вельмі шмат: невялікая вага, даволі пасрэдная яйканоскасць, але, як сказаў нехта з вялікіх: «Прыгажосць не церпіць мэтазгоднасці».

Потым паўлаўскіх не стала, разам з імі амаль зніклі з падвор'яў іншыя спрадвечна рускія пароды курэй: арлоўскія паркалёвыя, юрлаўскія галасістыя і многія іншыя.

Здарылася гэта ў тыя часы, калі ў пагоні за так званай мэтазгоднасцю (скараспеласцю, яйцаноскасцю, вагой) у СССР завезлі белых легорнаў і рыжых род-айлендаў, якіх найвышэйшым указам прадпісана было разводзіць ва ўсіх птушкагадоўчых гаспадарках Саюза Непарушнага. Націску прадуктыўных кудахтаючых амерыканцаў не вытрымалі абарыгенныя пароды, прычым не толькі рускія, але і характэрныя для Малдовы, Каўказа, Сярэдняй Азіі. Пароды практычна зніклі, а разам з імі ўсходнееўрапейскія землі страцілі тое, што называецца мудроным навуковым словам «генафонд». Зрэшты, масавае знішчэнне закранула не толькі свойскіх птушак і *іншую сялянскую жыўнасць*, чалавечы генафонд, як мы цяпер ведаем з нанава перапісаных падручнікаў гісторыі, таксама пацярпеў даволі моцна, але гэта ўжо іншая гісторыя.

Вернемся да птушак. Паспрабуйце спытаць у любой вясковай бабулі, якой пароды куры ходзяць па яе двары, самая знаходлівая хутчэй за ўсё адкажа: «Восем белых ды парачка рабых...»

Сумна робіцца ад таго, што людзі, прызванне якіх вырошчваць ураджай і гадаваць жывёлу, у большасці выпадкаў не разумеюць нават сутнасці зададзенага пытання.



**НА ЗДЫМКУ — адзін з мінскіх аматараў пародзістай птушкі з парай курэй пароды галандская белачубатая.**

Вырошчванне пародзістых птушак — справа цікавая не толькі з пункту гледжання калекцыянера, але і даволі выгадная выключна ў меркантыльным разуменні гэтага пытання. Справа ў тым, што пры вывядзенні той ці іншай пароды чалавек вельмі доўга праводзіў селекцыйны адбор птушак з перавагай той ці іншай прыметы і таму ўсё ж тая праслаўлутая яйцаноскасць любой з затурканых «курачак рабых» вёскі Пагарэлкі ніякім чынам не можа параўнацца з любой з яйцаноскіх парод.

Пародзістыя куры мяснога напрамку проста вялізныя, па нашых сярэдніх мерках, певень пароды кахінхін, напрыклад, можа пацягнуць і 10 кг, а брама — 8 кг.

Ёсць і выключна дэкаратыўныя пароды, усё тыя ж паўлаўскія, ці, напрыклад, галандскія белачубатыя — невялікія чорныя птушкі з пышнымі белымі «хрызантэмамі» з пер'я на галовах, ці фенікс — пеўні гэтай пароды, маюць хвасты вялізных памераў.

Аматары рознага роду страсцей вывелі мноства байцоўскіх парод, пеўням якіх, дзеля ісціны варта адзначыць, не месца на агульным птушыным двары.

Мода на пародзістую птушку, на шчасце, пачала адраджацца, у тым ліку і ў нас у Беларусі. Сярод птушкаводаў-калекцыянераў рэдка сустрэнеш чалавека, для якога птушкагадоўля з'яўляецца прафесіяй. Сярод аматараў свойскай пародзістай птушкі сустракаюцца былыя афіцэры, будаўнікі, інжынеры і нават міліцыянеры. Акрамя курэй гэтыя аматары трымаюць на сваіх падвор'ях таксама пародзістых качак, індычак, гусей, цацарак, перапёлак і фазанаў.

Для таго каб вы, паважаныя чытачы, атрымалі хоць прыблізнае ўяўленне аб некаторых найбольш экзатычных пародах курэй, якія з поспехам утрымліваюцца і разводзяцца ў нас у рэспубліцы, правядзём такі бліц-парад і коратка спынімся на найбольш характэрных.

**Кахінхін.** Аб гэтых веліканах птушынага двара мы ўжо коратка ўпаміналі. Птушка гэтая родам з Кітая, у Еўропу была завезена ў XVIII стагоддзі і адразу ж выклікала сапраўдны бум. Дзякуючы свайму велічнаму і імпазантнаму выгляду: вялікія для курэй памеры, насычаная яркая афарбоўка (белая, вугальна-чорная, палевая, паркалёвая ці блакітная), амаль вертыкальная постаць, поўнасцю апераныя (уключаючы пальцы) лапы; смачнае мяса, якое нагадвае дзічыну, буйныя яйкі, — гэтая птушка надоўга заваявала сэрцы еўрапейскіх птушкаводаў. Прастору ад Вялікабрытаніі да Партугаліі ахапіла сапраўдная «кахінхінаманія».

Дарэчы будзе сказаць, што курэй гэтых разводзілі ў асноўным у дэкаратыўных мэтах, як «паркавых» птушак.

У Расійскую імперыю кахінхіны былі завезены ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. У наш час рэдкая курыная калекцыя абыходзіцца без гэтай велічнай птушкі.

Акрамя ўсяго вышэйсказанага, кахінхін валодае рэдкай вартасцю, якую ў першую чаргу ацэняць нашы дачнікі. Гэтых курэй можна смела выпускаць на градкі, у іх зусім адсутнічае інстынкт разграбання глебы, і таму вашы клубніцы ці кабачкі не будуць бязлітасна выграбаныя з зямлі, як гэта робяць «курачкі-рабы».

**Брама.** Курыца знешне нагадвае кахінхіна, але не такая пушыстая і цяжкая, ды і ростам брама меншая будзе. Гэтак жа, як і кахінхін, не мае інстынкту разграбання. Скараспелая і яйцаносная парода. Асабліва трэба адзначыць тое, што куры гэтай пароды аднолькава добра нясуцца як летам, так і зімой. Гэта сапраўднае ўпрыгажэнне птушынага двара. У Індыі (а брама родам менавіта адтуль) мяса гэтых птушак дазволена падаваць да стала толькі вельмі буйных дзяржаўных чыноўнікаў, знаці і прадстаўнікоў вышэйшых кастаў.

**Бентамка.** Мініяцюрныя курачкі вагой усяго каля 300—400 грамаў, вельмі арыгінальна выглядаюць побач з велізарнымі брама і кахінхінамі, у якіх могуць свабодна прайсці пад жыватом.

У большасці выпадкаў тыя маленькія курачкі, якіх часам можна ўбачыць на рынках нашых гарадоў, не з'яўляюцца чыстакроўнымі бентамкамі, а ўсяго толькі карлікавымі варыяцыямі сумесяў розных парод. Сапраўдныя бентамкі сустракаюцца даволі рэдка. Самым вялікім плюсам гэтай птушкі з'яўляецца яе унікальная ўседлівасць на яйках. Гэта ідэальная квактуха і павадыр куранят, прычым не толькі сваіх. Паслугамі бентамак як жывымі інкубатарамі карыстаюцца калекцыянеры, якія гадуюць цацарак, фазанаў, паўлінаў і агрусаў.

**Галандская белачубатка.** Вельмі прыгожая, вугальна-чорная птушка з вялізным ярка-белым плюмажам з пер'яў на галаве. Валодаючы невялікімі памерамі і параўнальна невысокай яйцаноскасцю, «галандкі» адносяцца да чыста дэкаратыўных птушак. Іх шыкоўная «прычоска», калі яе пастаянна не даглядаць, можа ператварыцца ў брудную, збітую набакір шапку. Догляд нескладаны: прыкладна раз у 2 месяцы гэтым курам трэба мыць галаву цёплай вадой з шампунем. З-за гэтага дэкаратыўнага ўпрыгажэння (якое, па вялікаму рахунку, птушкам толькі перашкаджае), «галандкі» падвяргаюцца нападам птушак-драпежнікаў (ястрабаў, каршуноў і г. д.), курыца проста не бачыць нічога, што адбываецца зверху, ззаду і збоку, сектар зроку ў яе ўвогуле абмежаваны толькі невялікім участкам прама перад нагамі. Таму белачубатак лепш за ўсё трымаць у невялікіх вальерчыках, якія зверху пакрыты буйной сеткай, асобна ад іншых птушак.

Мы прывялі толькі кароткае апісанне некаторых парод курэй. Тым, хто зацікавіцца пародзістай птушкагадоўляй, зразумела ж, недастаткова будзе такога кароткага знаёмства. У апошні час пачала з'яўляцца літаратура па гэтай тэме, але гэтага відавочна недастаткова, таму ўсім жадаючым можна параіць пайсці ў бліжэйшую бібліятэку і «з галавой» акунуцца ў падшыўкі часопіса «Приусадебное хозяйство», які да гэтага часу выдаецца ў Расіі. Акрамя карысных парад, якія датычаць элітарнай птушкагадоўлі, вы зможаце знайсці там і адрасы калекцыянераў, якія прадаюць інкубацыйныя яйкі і пародзістых куранят.

Пародзістыя кураняты вельмі кволыя. Добрай ілюстрацыяй слабасці і кволасці куранят з'яўляецца такі факт. Аднойчы трохсутачнае кураня галандскай белачубаткі, якая, дарэчы, належыць маім бацькам, у плюсну (ніжняя частка нагі) укусіў камар. Эфект быў надзвычайны: бедалага завалілася на бок, відаць, збіраючыся аддаць Богу сваю курыную душу. Дапамог яму кампрэс са спіртавога настою купальніку, ватку з якім кураняці прывязалі да нагі. Брацік пацярпелага, палічыўшы, відаць, ватку нейкім яшчэ невядомым дагэтуль далікатэсам, пасляхова скляваў і... заваліўся побач з першым пацярпелым, заснуўшы цяжкім п'яным сном. Да раніцы абодва кураняці цалкам ачунялі, а бацька доўга разважаў, ці даваць другому пахмяліцца. Вырашылі, што ператопчацца.

**Арцём ХАНІН.**

# ЗІМОВЫ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## ЛЮТЫ (*ТРЭЦЯЯ ДЭКАДА*)

***У гэтым календары першая лічба азначае дату па новаму стылю, а другая — па старому (юліянскаму летазлічэнню, якім карыстаецца праваслаўная царква): 1/19 — 1 лютага па н. ст., 19 лютага па с. ст.***

***Назвы свят і прысвяткаў, якія бытавалі ці бытуюць сярод праваслаўных беларусаў, выдзелены паўтлустым шрыфтам, а сярод католікаў-беларусаў — курсівам.***

**20/7. Масленыя Дзяды (*Мясаедныя, Паставыя, Зімовыя, Стрэчаньскія*)** — пятніца і субота (а ў некаторых раёнах Беларусі яшчэ і чацвер) перад Масленіцай; называлі таксама Дзедавай пятніцай. Раніцай палілі печку, бялілі ў хаце, засцілалі стол чыстым абрусам, вешалі новы ручнік — чакалі гасцей, «дзядоў». Пасля рытуальнага абеду рэшткі пакідалі на стале «дзядам», у сувязі з чым гаварылі: «Дзяды не зналі бяды, а нашы ўнукі зазналі мукі» (Свіслацкі раён).

**21/8. Дзедавая субота (*Бабы*).** Праваслаўная царква ў перадвялікодным тыдні ў суботу адзначала Усяленскую бацькоўскую (мясапусную) суботу як дзень памяці аб Страшным судзе, аб памерлых. У «Настольнай кнізе свяшчэннаслужыцеля» запісана: «У суботу ж, а не ў іншы дзень, перад мясапуснай нядзеляй патрабуецца маленне аб супакаенні душ, таму што дзень суботы, як дзень супакою, па свайму значэнню ёсць найзручнейшы для малення — супакоіць памерлых са святымі. Акрамя таго, гэтым маленнем аб супакаенні памерлых св. Царква напамінае нам пра непазбежную і для нас канчыну і будучае выпрабаванне ад непадкупнага Суддзі...

**22/9.** *Пятро.* З прысвяткам звязана прымета: калі на Пятра цёпла — зіма працягнецца да Вялікадня.

**23/10. Прохар.** Заўважалі, што ў гэты дзень ласі скідваюць рогі, бліжэй становіцца да вясны. «Прыйшоў Прохар ды Улас — скора вясна ў нас».

Сярод шэрагу імён, якімі пазначаны гэты дзень у царкоўным календары, маецца прападобны Прохар Пячэрскі (пам. у 1107 г.), родам са Смаленска.

**23/10. Масленіца (*Масленка, Масніца*)** — пачатак (з панядзелка) **Масленага (*Сырнага, Крывога, Пустога, Развітальнага*) тыдня**, даўняга свята заканчэння зімы, таму і гаварылі: «Масленка зіму праводзіць, год — сустракае». Прыстасавана царквою да апошняга тыдня перад постам. Мяснае не елі, а толькі малочнае. Гаварылі, што Масленіца бывае «на маладзіку» («рог месяц умачыў у масла»). Наладжвалі гульні. Ездзілі на конях, каталіся на санках. Дзяўчаты насілі хусткі з доўгімі махрамі, каб вырас доўгі лён. Дзеля гэтага неабходна і як мага далей праехаць з горкі, і найвышэй гушкацца на арэлях. На Смаленшчыне прыкмячалі, які добры дзень на Масленым тыдні — у той дзень ад Іллі некалі сеялі лён. Там жа гаварылі: «Масленіца ў вятху (пасля поўні) — **А. Л.**, дзяржы пшаніцу ў мяху; сей пшаніцу ва ўсю руку, калі Масленіца ў Маладзіку».

Найбольшая колькасць вяселляў прыпадала на паслякалядны перыяд — Малую вяселіцу, якая заканчвалася першым днём Вялікага посту. Дзяўчаты хлопцам вешалі калодкі за тое, што яны не паспелі да Масленіцы ажаніцца, і тыя адкупаліся гарэлкаю, салодкім. Асабліва святкавалі ў апошнія дні, суботу і нядзелю. Каталіся на конях, упрыгожаных рознакаляровымі стужкамі і званкамі, спявалі:

*Мы думалі Масьлінка сем нядзелік,*
*Ажна Масьлінкі сем дзянёцкыў!*
*Нас Масьлінка абманіла,*
*На сем нядзель пыста пысьдзіла,*
*На белую капусту,*
*На горкую рэдзьку.*
(Веліжскі павет)

Кожны дзень тыдня меў сваю назву, пачынаючы ад панядзелка і заканчваючы нядзеляй: Сустрэча, Заляцанне, Ласуха (Пералом), Шырокі, Цешчыны вечары, Залвіцыны вячоркі, Развітальны (Дараваны) дзень.

Моладзь выстройвалася і вадзіла па вёсцы «масленіцу», каб лён добры вырас». У Сенненскім павеце на першы дзень свята жанчыны на санях «вазілі маладую», якая ў апошні Мясаед выйшла замуж. Спявалі ёй:

*Маладая ты Марутка,*
*Выйдзі, выйдзі к нам на вулку!..*
*Вазьмі сыра — родзіш сына,*
*Вазьмі мачку — родзіш дачку,*
*Вынісь рэпку — родзіш слепку...*
Муж «маладой» частаваў усіх.

У Развітальную і Даравальную нядзелю вечарам праводзілі абрады развітання з малаком і прашэння даравання ў старэйшых. Паходжанне назвы «Масленіца» даследчыкі звязваюць з парой, калі пачыналіся ацёлы і з'яўлялася новае малако, а затым тварог і масла. На гэтай падставе ўзнікла традыцыя пакланення язычніцкаму Воласу, што быў апекуном жывёлы.

Большая традыцыя святкавання Масленіцы назіралася ў рускіх. На поўдні Беларусі Масленіца, як провады зімы, накладвалася на Гуканне вясны.

**24/11. Аўлас (*Улассе, Уласце, Улас*).** Лічыўся святам жывёлы («каровіным і конскім»). У адрозненне ад Валосага, Крывога чацвярга, які бывае на масленічным тыдні, Аўлас мае сталае месца ў календары. Магчыма, царкоўнікі, каб адцягнуць увагу ад язычніцкага культу Воласа-Велеса, увялі па сугуччы на гэты дзень свята свяшчэннапакутніка Уласія Севасційскага (пам. каля 316 г.).

На Аўласа таксама назіралі за надвор'ем. Верылі, што каля свята сем маразоў: тры напярэдадні, адзін на Уласа і тры пасля яго.

Каб адлужаць ласку, якая псавала жывёлу ў адрыне, сяляне вешалі пад столлю забітую варону.

У каталіцкіх раёнах Беларусі на гэты дзень прыпадае *Мацей*. Прыказкі гавораць: «На Мацея дарога пацее», «Калі на Мацея далонь спацее, то прадбачыцца добры год». Нездарма яго яшчэ называлі *Сухім днём.*

**25/12.** *Папелец, серада сёмага тыдня перад Вялікаднём* (46-ы дзень) у католікаў, пачатак Вялікага посту. У гэты дзень свенціцца попел з вярбы, якая была пасвенчана ў мінулым годзе на Вербнай нядзелі і пасыпаецца на галаву ў знак божых пакут.

**26/13. Фацiння**. Лічылася заступніцай ад ліхаманак, трасцы. У царкоўным календары адзначаюцца прападобныя Зоя і Фацiння (Святлана) — V стагоддзе, а таксама Марцініян, Яўлогі, Стэфан і свяціцель Георг Магілёўскі.

**26/13. Крывы (*Тлусты*) чацвер** — чацвер на Масленым тыдні. У Драгічынскім і іншым раёнах — Валосы (Валосся). Існавала шмат забаронаў. «На Валосого бліны пыклі ці оладкы, коб булы вылы гладкы». У Віцебскай губерні на Валосся добра даглядалі жывёлу, «піравалі», спявалі песні з прыпевам: «Ах ты, ладо, мае ладо!», «аб'язджалі маладога бычочка або жарэбчыка».

У некаторых мясцінах адзначаюць Улас, Аўлас. Відаць, гэта свята — рэшткі культу Воласа, язычніцкага бога жывёлы.

**Алесь ЛОЗКА.**

# СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ

### 22 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ

**Рэкамендацыі.** Проціпаказаныя лянота, бегатня і мітусня, усё трэба рабіць спакойна і разважліва. Недапушчальныя авантуры. Не перакладвайце сваіх праблем на плечы іншых. Дзень спрыяльны для наведвання храма, чытання малітваў і посту. Сачыце за сваімі думкамі, пазбаўляйцеся ад шлакаў, як духоўных, так і фізічных. Лячэбнай сілай сёння валодае агонь. Добра не толькі медыцыраваць на агонь, але і абысці ўсе куткі свайго дома са свечкай. Як мага больш сёння хадзіце пешшу. Не трэба многа спаць і есці. Адмоўцеся ад грубай ежы, алкаголю і цыгарэт.

**Адзенне.** Прытрымлівайцеся жоўтых, цёмна-чырвоных і карычневых тонаў. Можна насіць бліскучае адзенне. Пазбягайце халодных адценняў.

**Прыметы.** Калі вы адчулі моцны парыў ветру, ці ў вашай кватэры нечакана ад ветру расчыніліся вокны, дзверы, — знак багацця ці новых знаёмстваў. Калі вам становіцца горача, гараць вушы ці паяўляецца сухасць у роце, — знак умацавання сіл і энергіі. Але калі вы мерзнеце і не можаце сагрэцца, то прыміце гэта як знак папярэджання аб хуткай хваробе, упадку сіл, дэпрэсіі.

**Сны**. Добра, калі вы не бачыце сноў ці не памятаеце іх.

**Медыцына.** Проціпаказаныя ўсе аперацыі і працэдуры, звязаныя з пазваночнікам, касцямі і зубамі, забароненыя — звязаныя з печанню, жоўцевым пузыром, абменам рэчываў і скурай. Можна праводзіць лячэнне страўніка, 12-перснай кішкі і грудных залозаў.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### Крыжаванка



**Па гарызанталях**: 1. Рака ў Закаўказзі, правы прыток Куры. 3. Абласны цэнтр у еўрапейскай частцы Расіі. 6. Празрысты, слаісты мінерал, які шырока прымяняецца ў тэхніцы. 8. Масавае спартыўнае спаборніцтва. 11. Прылада для лоўлі рыбы. 12. Ахоўная абалонка, у якой вусень ператвараецца ў кукалку. 13. Самаходная машына для ўшчыльнення грунту, дарожных пакрыццяў. 15. Акружэнне войск праціўніка з мэтай іх знішчэння або паланення. 17. Помнік у гонар знамянальнай падзеі. 20. Дваранскі тытул у старой Расіі, у некаторых краінах Еўропы. 21. Яркая зорка ў сузор'і Арла. 22. Кармавая расліна сямейства бабовых. 23. Кароткае ізлажэнне зместу навуковай працы, артыкула, кнігі. 25. Галоўны горад-порт на востраве Сіцылія. 26. Дзеючая асоба ў п'есе Я. Купалы «Паўлінка». 27. Агародная культура, клубняплод. 29. Вялікая пералётная птушка. 32. Раздзел фізікі. 33. Апошняя літара грэчаскага алфавіта. 34. Від урадавай узнагароды. 35. Ластаногая млекакормячая жывёла сямейства цюленяў.

**Па вертыкалях**: 1. Месца ў пустыні з крыніцай вады і расліннасцю. 2. Невялікая гара круглаватай формы на Далёкім Усходзе Расіі. 3. Рухомая частка пішучай машынкі. 4. Партовы горад у Францыі. 5. Вялікая стацыянарная лячэбная ўстанова. 6. Каштоўная прамысловая рыба сямейства акунёвых. 7. Хімічны элемент, газ без колеру і без паху. 9. Верхні слой атмасферы. 10. Амплуа цыркавога артыста. 14. Навука аб тэорыі і практыцы вядзення бою. 15. Прадмет супрацьпажарнага інвентару. 16. Плывучая землечарпальная машына. 18. На Каўказе: род плашча або накідкі з тонкага лямцу. 19. Невялікі магазін. 25. Мука з ачышчанага, пражанага аўса. 25. Славуты савецкі палярны даследчык. 27. Пласкадоннае несамаходнае судна для перавозкі грузаў. 28. Лабараторны шкляны посуд. 29. Прасоленая або правэнджаная свініна асобага прыгатавання. 30. Аптычнае шкло са сферычнымі паверхнямі. 31. Мелкае месца на ўсю шырыню ракі, па якім яе можна перайсці, пераехаць.

**Склаў Аляксандр САНКЕВІЧ.**
*г. Мінск.*

### Шаснаццаць партфеляў

У шаснаццаці клетках намаляваны толькі восем партфеляў, паспрабуйце адшукаць заканамернасць, паводле якой размяркоўваюцца дэталі партфеляў на васьмі малюнках, і дамалюйце згодна з гэтай заканамернасцю астатнія восем партфеляў у адпаведных свабодных клетках.

### Праверце, калі ласка, адказы

**Крыжаванка (14 лютага). Па гарызанталях:** 1. Кант. 3. Скіп. 9. Барабулька. 10. Калаўрот. 13. Вата. 14. Падушачкі. 15. Агар. 18. Невад. 19. Кулон. 20. Папар. 23. Вітрына. 24. Атэстат. 27. Пятніца. 28. Кавалер. 31. Багер. 32. Сваяк. 33. Цапфа. 38. Орак. 39. Скальпель. 40. Трап. 43. Бружмель. 44. Экскаватар. 45. Ачаг. 46. Якар. **Па вертыкалях**: 1. Караткевіч. 2. Неба. 4. Клан. 5. Парагвай. 6. Алтар. 7. Скрупул. 8. Сайка. 9. Бавэ. 11. Тара. 12. Кагорта. 16. Кабрыялет. 17. Мадапалам. 21. Юнона. 22. «Астап». 25. Сцэвала. 26. Перфаратар. 29. Саладуха. 30. Бяспека. 34. Горб. 35. Шкала. 36. Флёкс. 37. Эпюр. 41. Імша. 42. Цвік.

**Галаваломка (14 лютага).** Ключык да яе рашэння такі: у кожным трохклетачным адрэзку трэба выкрасліць сярэднюю літару. Прымаўка чытаецца такая: «Лета на зіму, а зіма на лета працуюць».

**Крыптаграма (14 лютага).** Ключавыя словы ў ёй такія: гарызонт, вуліца, смерч, дах. Зашыфраваная прымаўка: «Хто вучыцца змоладу, не ведае на старасці голаду».

## Афіша выхадных

● **У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы** *ў суботу* даюць «гістарычна недакладную камедыю» «Ромул Вялікі» па п'есе Ф. Дзюрэнмата; *у нядзелю* — «Умовы дыктуе жанчына» (трагікамедыя ў 2-х дзеях).

● **Тэатр беларускай драматургіі «Вольная сцэна»** *21 лютага* прапануе сваім гледачам гістарычную драму Раісы Баравіковай «Барбара Радзівіл».

● **У акадэмічным тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь** *21 лютага* можна паслухаць канцэрт хору Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра оперы РБ.

● **У музкамедыі** *ў суботу* можна паглядзець «Вясёлую ўдаву» Ф. Легара; *у нядзелю раніцай* — В. Войцік. «Прыгоды ў замку «Алфавіт» ( мюзікл для дзяцей).

● **Тэатр маладзёжнай эстрады** прапануе ў суботу музычна-парадыйную праграму «Знесеныя смехам».

● *22 лютага* **ў канцэртнай зале «Мінск»** адбудзецца канцэрт Галоўнага ваеннага аркестра Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр — заслужаны артыст Беларусі палкоўнік М. Берсан. Канцэрт прысвечаны Дню абаронцаў Айчыны.

● *22 лютага* **ў Доме афіцэраў** у 18.00 адбудзецца адзіны канцэрт зоркі расійскай эстрады Ірыны Салтыковай. *У гэты ж дзень* у 22 гадзіны ў клубе **«Вернісаж»** пройдзе конкурс «Эліт-мадэль» з удзелам мінскіх мадэляў і Маскоўскага мадэльнага агенцтва.

Прыемнага адпачынку ў выхадныя дні!

## ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ

# ТЫ — ВЯСНА МАЯ

Пад такой рубрыкай на старонках нашай газеты мяркуецца змясціць частку беларускіх песень. Іх публікацыя будзе папярэднічаць грунтоўнай размове з паэтамі, кампазітарамі, выканаўцамі ў радыё- і тэлеперадачах.

З 1 сакавіка супрацоўнікі Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі пачынаюць узгоднена наладжваць прэм'еры песень. Нядзельным ранкам па першай праграме Беларускага радыё прагучыць новы вакальны твор, а вечарам на тэлеканале прадоўжыцца гутарка пра яго стварэнне. Да гэтай супольнай працы далучаецца і «Звязда». У суботніх выпусках газеты плануецца надрукаваць тэст і ноты песні, якая назаўтра з'явіцца ў радыё- і тэлеэфіры.

Цікавую ідэю прапануюць арганізатары такіх прэм'ераў. Яны імкнуцца, каб насельнікі нашага краю не толькі пачулі новую песню, пазнаёміліся з яе стваральнікамі, але і развучылі прапанаваны твор, заспявалі яго. Такая з'ява сумеснай працы ў сродках масавай інфармацыі адгорне незвычайную старонку ў развіцці музычнай культуры нашай краіны, актыўна напоўніць новымі меладычнымі інтанацыямі беларускую прастору.

... А заўтра ў радыёперадачы «Песня для вас», што выйдзе, як звычайна, у 9 гадзін 45 хвілін, адбудзецца прэм'ера песні «Ты — мая вясна». Яе напісалі паэт Васіль Жуковіч і заслужаны артыст рэспублікі саліст Ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Беларусі Леанід Нікольскі. Гэтая песня запісана на тэлебачанні і неўзабаве прагучыць у адной з тэлеперадач «Песню бярыце з сабой».

**Міхась ШАВЫРКІН.**

***ВЕРШ*** *Васіля ЖУКОВІЧА*

Замоўклі салоўкі ў зялёным гаі.
Але ты са мной, каханне.
І ў сэрцы спяваюць мае салаўі
Пра зорнае наша спатканне.
Хай скончыцца лета прывычным цяплом,
На небе збіраюцца хмары.
Ты сонцам ласкавым прыходзіш у дом —
І наша вясна у разгары.

***Прыпеў:***
*Жанчына любая мая,*
*Маёй вясною будзь заўсёды.*
*Цябе аберагаю я,*
*Цудоўны свет любві і згоды.*

Я думаю часта пра добры мой лёс.
Ты — лёсу майго ўзнагарода.
Пра гэта шапоча мне лісце бяроз,
Пра гэта пяе ўся прырода.
Хмялею ад радасці — не ад віна.
Ты — радасці, шчасця вяршыня!
Мая ты вясна, прыгажуня вясна,
Хай доля цябе не пакіне!

***Прыпеў.***

***МУЗЫКА*** *Леаніда НІКОЛЬСКАГА*



## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

● **У гэты дзень у 1541 годзе** нарадзіўся Дж. Бернардоні, італьянскі архітэктар, удзельнік будаўніцтва Нясвіжскага касцёла езуітаў і калегіума, нясвіжскага палацава-замкавага комплексу.

● **21 лютага 1873 года** нарадзіўся Уладзімір Бонч-Бруевіч, савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, супрацоўнік шэрагу бальшавіцкіх выданняў — газет «Искра», «Вперед», «Правда», удзельнік трох рэвалюцый, кіраўнік спраў СНК.

● **У гэты дзень у 1904 годзе** нарадзіўся Аляксей Мікалаевіч Касыгін, вядомы савецкі дзяржаўны дзеяч, Старшыня Савета Міністраў СССР у 1964—1980 гадах.

### І так бывае...

***Не выключана, што ўжо сёлета ў Маскве з'явіцца Фонд азелянення Марса.***

Прадпрыемства з такой назвай збіраецца зарэгістраваць у расійскай сталіцы масквіч Яўген Кушнароў. Ён паведаміў журналістам, што ў яго ўжо ёсць праект статута фонду, дзе гаворыцца, што добраахвотныя ахвяраванні на маючае адбыцца ў XXI стагоддзі засяленне і азеляненне Марса дазволяць усім жадаючым увекавечыць сябе на спецыяльным мануменце, які закладуць заснавальнікі першага марсіянскага парку.

У пацвярджэнне сваіх слоў спадар Кушнароў горда дэманструе пасведчанне, дзе па-руску напісана, што «праект азелянення Марса ўзгоднены з НАСА» і чамусьці з Цэнтрам кіравання палётамі. Заснавальнік фонду дэманструе таксама пачку долараў, сцвярджаючы, што гэта і ёсць першыя ахвяраванні.

### Хочаце — верце

***Вядомы ў Іжэўску вядзьмак і лекар Валерый Каралёў лічыць, што ў кожнай кватэры павінна быць своеасаблівая мужчынская тэрыторыя.***

Такую неабходнасць ён тлумачыць тым, што сучасныя кватэры — асяроддзе, у якім пануе жанчына, дзе ўсё ўладкавана па яе густу і існуе па яе законах. А гэта, на думку сп. Каралёва, вельмі дрэнна ўплывае на ўнутраны стан прадстаўнікоў дужай палавіны чалавецтва, робіць іх раздражняльнымі, няўпэўненымі ў сабе. Пагэтаму, упэўнены Валерый, і ўзнікаюць сямейныя канфлікты нават з-за дробязяў, што прыводзіць да разладу ў сем'ях, а то і да разводаў.

### Неверагоднае, загадкавае...

***У запасніках Брытанскага музея захоўваецца шкляны чэрап, які вучоныя датуюць 988 годам нашай эры і які выраблены народам майя. Гэтая рэч, як сцвярджаюць навукоўцы, стваралася на працягу некалькіх стагоддзяў з празрыстага маналіту.***

Нядаўна гэты прадмет, які захоўваецца ў музеі больш як 70 гадоў, трапіў у рукі вядомага медыума Кэрал Уілсан. Зірнуўшы на яго, пані Уілсан заявіла, што нас, зямлян, у недалёкай будучыні чакаюць цяжкія выпрабаванні, стыхійныя бедствы, якія знішчаць планету Зямля ў 2012 годзе.

— Чэрап сцвярджае, — каменціруе пані Уілсан, — што зменіцца магнітнае поле Зямлі, рэзка павысіцца ўзровень Сусветнага акіяна, які паглыне ў сваіх водах Аўстралію і Новую Зеландыю, на планету абрушыцца цэлая лавіна метэарытаў, адбудзецца некалькі буйных землятрусаў, што расколюць Еўразію.

Праўда, празорца лічыць, што не ўсё яшчэ страчана. Трэба знайсці астатнія 12 шкляных чарапоў, таму што той, які захоўваецца ў музеі, — усяго толькі адзін з трынаццаці зробленых магамі старажытнага народа. Толькі сабраныя разам, прадметы сваёй энергіяй змогуць прадухіліць сусветны катаклізм.

### Дзесьці на белым свеце

***25-гадовы Найджэл Крэнедж адседзеў прысуджаны за хуліганства год за кратамі і нарэшце быў выпушчаны на волю. Ля варот цямніцы Найджэла не сустракалі ні родныя, ні сябры, ні каханая, так што давялося яму дабірацца да роднага Йорка самастойна.***

Аб тым, каб купіць білет на цягнік ці, скажам, аўтобус, вызвалены арыштант нават не падумаў. Замест гэтага ён выкарыстаў стары выпрабаваны сродак — украў прыпаркаваны ля сцен турмы аўтамабіль.

Выбраў Найджэл машыну самую старую і абшарпаную — адкуль было яму ведаць, што належыць яна містэру Хагінсу — дырэктару турмы. Да дома Крэнедж, само сабой, даехаць не паспеў і быў вернуты назад у няволю, дзе яму яшчэ давядзецца правесці пяць месяцаў.

### Мудрасць стагоддзяў

♦ Чым танчэйшы лёд, тым больш усім хочацца даведацца, ці вытрымае ён. *(Білінгс.)*

♦ Жанчына нараджае дзяцей, але не нараджае думак. *(Арыстоцель.)*

♦ Вы можаце быць анёлам, дурнем ці злачынцам і ніхто не заўважыць гэтага. Але калі ў вас адсутнічае гузік на пінжаку — кожны зверне на гэта ўвагу. *(Рэмарк.)*

♦ Памажы, Божа, таму, хто не жэніцца, пакуль не знойдзе дасканалай жанчыны, і яшчэ больш дапамажы — калі ён знойдзе яе. *(Тылет.)*

♦ Жанчыну можна спытаць, чаму яна плача, але ніколі не трэба пытацца ў яе, чаму яна плакала: яна гэтага не помніць. *(А. Дзюма-сын.)*

### Анекдот

*Пасля аперацыі хірург кажа жонцы пацыента:*

*— Калі ваш муж ачуняе, падрыхтуйце яго да самага горшага.*

*— О Божа! Няўжо ён памрэ?!*

*— Ну, памерці не памрэ, але піць больш не будзе.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
***ФАКС:** 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 977.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12